*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Пятніца, 12 студзеня 1990 г. № 2 (3516) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


*Выбарчы клуб «ЛіМа»*

## ПРАВА НА РЭАЛЬНУЮ ПАЛІТЫКУ

Крыху больш месяца прайшло з таго часу, як у «ЛіМе» была надрукавана анкета для выбаршчыкаў. Столькі існуе і наш «Выбарчы клуб». Як можна было чакаць, актыўнасць чытачоў, іх грамадзянская зацікаўленасць у вырашэнні праблем, закранутых у лімаўскай анкеце, аказалася досыць высокай. Прыйшло шмат пісьмаў з розных куткоў нашай рэспублікі, ад людзей самых розных прафесій і ўзросту.

Сёння, чарговы раз друкуючы радкі з некаторых пісьмаў, ёсць сэнс паспрабаваць абагульніць змест чытацкай пошты, якую мы атрымалі пасля апублікавання анкеты. Але спачатку нагадаем яшчэ раз яе пытанні.

**1. Як вы асабіста разумееце лозунг «Уся ўлада Саветам»! Якія, на ваш погляд, шляхі яго рэалізацыі!**

**2. Як вы ўяўляеце і збіраецеся ажыццяўляць сваё грамадзянскае права выбіраць і быць выбраным у Саветы народных дэпутатаў!**

**3. Ваш ідэал народнага дэпутата! Каго канкрэтна вы хацелі б бачыць у дэпутацкім корпусе рэспублікі!**

Адказваючы на першае пытанне, большасць нашых чытачоў сыходзіцца на тым, што Саветы, дзеля таго, каб быць сапраўды ўладай, павінны мець палітычную і эканамічную самастойнасць і падпарадкоўвацца толькі Саветам, якія стаяць вышэй, і волі выбаршчыкаў. Пра гэта піша нам, у прыватнасці, інжынер з Мінска **А. Хацкевіч**. «Акрамя таго, — дадае ён у сваім пісьме, — павінна быць гарантавана рэальная самастойнасць рэспублікі, павінны быць прыняты дэмакратычныя законы аб мясцовым самакіраванні, аб уласнасці, аб зямлі». Аб неабходнасці гарантый самастойнасці і незалежнасці Саветаў, суверэннасці ўлады пішуць нам таксама **Л. Шарабайка** з г. Глыбокае Віцебскай вобласці, мастачка **В. Маркавец-Бартлава**, інжынер **А. Канапацкі**, **Я. Чакавая** (усе — з Мінска). Закранаючы няпростае, можна нават сказаць, фундаментальнае пытанне аб характары і прыродзе Савецкай улады, многія чытачы не маглі абысці і пытанне ўзаемасувязі яе з уладай партыйнай, размежавання сфер іх дзейнасці. Невыпадкова аўтары некаторых пісьмаў ставяць пытанне аб скасаванні або змяненні артыкула 6 Канстытуцый СССР і БССР. Сярод іх — ветэран працы з г. п. Гарадзішча Баранавіцкага раёна **А. Шырко**, віцябчане **В. Кухто**, **М. Саўкін**, жыхары Ганцавічаў **М. Ленкавец**, **А. Сідарэвіч** і іншыя (усяго восем подпісаў).

Амаль усе аўтары нашага «Выбарчага клуба» пішуць пра тое, што яны будуць прымаць самы актыўны ўдзел у вылучэнні і ў саміх выбарах народных дэпутатаў. Чаго чакаюць ад народных выбраннікаў? «Мы за тых, хто будзе абараняць нашу мову і інтарэсы нашага шматпакутнага люду», — пішуць пенсіянеры з г. Паставы **А. Л.** і **А. В. Фурсы**. «Няхай будуць выбраны дэпутатамі самыя лепшыя і сумленныя людзі, людзі з чыстымі рукамі і чыстай душой, самыя кампетэнтныя і таленавітыя». Пад гэтымі словамі ветэрана працы, мінчаніна **М. Наско** маглі б падпісацца і дзесяткі іншых нашых аўтараў.

Што датычыць імёнаў кандыдатаў, якіх чытачы хацелі б бачыць, перш за ўсё, у Вярхоўным Савеце рэспублікі, спіс іх складваецца досыць вялікі. Тут і літаратары — А. Адамовіч, У. Арлоў, Р. Барадулін, Г. Бураўкін, В. Быкаў, Н. Гілевіч, А. Мальдзіс, Б. Сачанка, і мастак М. Савіцкі, і навукоўцы — Г. Грушавы,

(Працяг на стар. 2).



У народнай артысткі СССР Галіны МАКАРАВАЙ — юбілей. Віншуем Галіну Кліменцьеўну з днём нараджэння, жадаем здароўя і новых роляў на купалаўскай сцэне.

На стар. 11 гэтага нумара — штрыхі да творчага партрэта актрысы.

Фота А. КАЛЯДЫ.


У НУМАРЫ:

«ХОЧАЦЦА ВЕРЫЦЬ!» Чытачы «ЛіМа» абмяркоўваюць праект Закона «Аб мовах у БССР» 4, 13

«БАЯЦЦА НАРОДА НЯМА ЧАГО...» Палемічныя нататкі аб шляхах дэмакратызацыі партыі 5

«ПРЫЙШЛО НАТХНЕННЕ — СТРУНЫ ЗВАРУШЫЦЬ» Віцебшчына літаратурная 8—9

«ЛЕТАМ ШЭСЦЬДЗЕСЯТ ВОСЬМАГА» Гісторыя вучыць... 14—15

*Выбарчы клуб «ЛіМа»*

# ПРАГРАМЫ, ПЛАТФОРМЫ, ЗАЯВЫ...

**Працягваецца першы этап кампаніі па выбарах народных дэпутатаў Беларускай ССР і мясцовых Саветаў рэспублікі — вылучэнне кандыдатаў. Асаблівасцю гэтага этапа з'яўляецца тое, што для шырокага абмеркавання абнародуюцца праграмныя дакументы розных грамадска-палітычных арганізацый — платформы, заявы і г. д. Сярод іншага ў іх гучаць заклікі да кансалідацыі дзеля далейшага паглыблення перабудовы і дэмакратызацыі нашага грамадства.**

**Так, у Платформе КПБ да выбараў адзначаецца: «Кампартыя Беларусі вядзе канструктыўны дыялог з усімі грамадскімі арганізацыямі, рухамі і групамі, якія выступаюць за абнаўленне грамадства на сацыялістычнай аснове, кансалідуе ўсе здаровыя сілы для вырашэння задач палітычнага, духоўнага і сацыяльна-эканамічнага развіцця рэспублікі».**

**У перадвыбарчай платформе ЛКСМ Беларусі «Перабудова — наш агульны шанц» ставіцца мэта дабівацца «стварэння прававой асновы для існавання любых грамадскіх самадзейных арганізацый, дзейнасць якіх не супярэчыць Канстытуцыі і законам БССР».**

**Арганізацыйны рабочы камітэт Савета працоўных калектываў Беларусі таксама выступіў з заявай, у якой заклікаў «вылучаць кандыдатамі ў народныя дэпутаты самых дастойных, нічым не скампраметаваўшых сябе людзей, *незалежна ад прафесіі, пасады, звання, полу,* нацыянальнай прыналежнасці, партыйнасці, адносін да той ці іншай грамадскай арганізацыі, *веравызнання,* людзей з развітым пачуццём адказнасці, аналітычна мыслячых, гатовых і здольных адстойваць прынцыпы сацыяльнай справядлівасці, сапраўдныя інтарэсы працоўных».**

**«Сёння партыйныя арганізацыі ўжо не з'яўляюцца адзінай палітычнай сілай у грамадстве, — чытаем у праекце платформы партыйнай арганізацыі Маскоўскага раёна г. Мінска. — На расстаноўку сіл у Саветах актыўна ўплываюць разнастайныя нефармальныя аб'яднанні, Беларускі народны фронт. Практычна сёння мы дзейнічаем ва ўмовах палітычнага плюралізму і больш не валодаем манапольным правам на фарміраванне Саветаў. Мы ПРАПАНУЕМ ДЫЯЛОГ І СУПРАЦОЎНІЦТВА ўсім грамадскім сілам, якія выступаюць за сацыялізм, за палітычнае самакіраванне народа, гатовыя абараняць яго інтарэсы».**

**Зразумела, што кансалідацыя, скіраваная на фарміраванне Саветаў як органаў сапраўднага народаўладдзя, немагчымая без выяўлення, ведання і супастаўлення самага шырокага спектра думак і пазіцый, якія можна падзяляць ці не падзяляць, але якія існуюць цяпер у грамадстве.**

**Распрацаваў сваю платформу і БНФ «Адраджэнне». У прэамбуле гэтага дакумента, перададзенага ў рэдакцыю, у прыватнасці, адзначаецца: «Беларускі народны фронт ідзе да выбараў з ідэямі палітычнага і эканамічнага плюралізму, культурнага адраджэння, з ідэямі дэмакратыі, свабоды і суверэнітэту Беларусі. Мы заклікаем усіх жыхароў рэспублікі галасаваць за сумленных, кампетэнтных, адказных, дэмакратычна настроеных людзей...**

**Лёс грамадства павінен вызначацца самім народам. Ад яго выбару залежыць будучыня Беларусі».**

**(Пачатак на стар 1).**

А. Грыцкевіч, С. Міхноў, З. Пазняк, Ю. Хадыка, С. Шушкевіч і іншыя. Сярод названых — імёны цяперашніх дэпутатаў Вярхоўнага Савета БССР (Г. Ерамееў, У. Кавалёнак) і савецкіх работнікаў *(напрыклад, намеснік старшыні Віцебскага аблвыканкома У. Цацоха)* і інш. Цікава адзначыць, што многія нашы чытачы пашырылі пытанне і назвалі ў сваіх адказах імёны тых, каго яны не хацелі б бачыць сярод народных дэпутатаў. Гэты «альтэрнатыўны» спіс таксама атрымаўся досыць доўгі і разнастайны. (Напрыклад, сярдзіты ліст, скіраваны супраць магчымага кандыдата ў дэпутаты пасялковага Савета, даслала нам жыхарка пасёлка Лясны **Л. Уладыка**).

*Што ж, сёння ў выбаршчыкаў ёсць права не толькі называць* імёны, але і рэальна выбіраць, фарміруючы тым самым палітыку заўтрашняга дня.

**Наш аглядальнік.**

## РАДКІ З ПІСЬМАЎ

□

Лозунг «Уся ўлада Саветам!» мне здаецца не зусім карэктным. *Уся ўлада не можа належаць* ні аднаму чалавеку ці групе асоб, ні палітычнай партыі, ні нават парламенту (Саветам). Улада цалкам належыць народу, усёй супольнасці грамадзян і шляхам прамых, усеагульных, роўных і тайных выбараў часткова надаецца адпаведным структурам. Напрыклад, юрыдычная ўлада — незалежным судам і пракуратуры, эканамічная — працоўным калектывам, выканаўчая — ураду, заканадаўчая — Саветам.

Цяпер *адносна права выбару.* Удзельнічаць у галасаванні — найбольш просты, але і найбольш пасіўны спосаб яго рэалізацыі. Трэба актыўна шукаць і падтрымліваць кандыдатаў, якія маглі б стаць лідэрамі, маглі б знайсці шляхі адраджэння рэспублікі, выйсця з крызісу.

Скажу шчыра: хацеў бы паспрабаваць свае сілы ў якасці кандыдата ў народныя дэпутаты Вярхоўнага Савета БССР. Ці ёсць у мяне для гэтага маральнае права і неабходныя здольнасці? Гэта рашаць калектыву, у якім я працую...

**С. ДЫЧОК,**
**інжынер ВА «Інтэграл».**
г. Мінск.

□

**Для мяне** ідэал дэпутата — барацьбіт, у якога хопіць настойлівасці і асабістай мужнасці ў спаборніцтве з «героямі мінулых дзён», якія разумеюць перабудову як манаполію на ўладу.

**Ю. ЗАЛОСКА.**
*Свіслацкі р-н,*
в. Навасады.

□

Зараз Саветы не маюць ніякай улады, бо яны вымушаны прасіць грошы ў прадпрыемстваў, якія размешчаны на іх тэрыторыі. Каб улада сапраўды належала Саветам, прадпрыемствы павінны адлічваць у іх фонд адпаведны працэнт свайго прыбытку. Толькі тады Саветы будуць эканамічна незалежнымі...

**У. ФЯДОТАЎ.**
г. Віцебск.

□

**Мы з мужам** — пенсіянеры. *Актыўна ўдзельнічаць у абнаўленні жыцця нашага грамадства мы ўжо не ў стане.* Але хочам далучыць свой голас у падтрымку тых кандыдатаў, якія на справе змагаюцца за новае, свабоднае жыццё. Бо ўжо настаў час беларусам — людзьмі звацца.

***Муж і жонка***
**ПАРХІМОВІЧЫ.**
г. Мінск.

25 лістапада «Літаратура і мастацтва» паведаміла, што ў Дзяржаўным мастацкім музеі БССР адбыліся ўрачыстасці. Калектыў музея святкаваў 50-годдзе з дня адкрыцця карціннай галерэі ў г. Мінску. Супрацоўнікаў віталі госці—калегі з Мінска, Кіева, музеяў рэспублікі.

Супрацоўнікамі музея да свайго свята была наладжана выстава, якая адлюстроўвала яго гісторыю, творчыя здабыткі калектыву. Гледачы, якія пабывалі на выставе, змаглі атрымаць уяўленне аб вялікай бескарыслівай працы музейшчыкаў у справе эстэтычнага выхавання насельніцтва, аб творчых сувязях з музеямі СССР і замежных краін. За гады свайго існавання Дзяржаўным мастацкім музеем БССР зроблена звыш 2500 выстаў, якія наведалі каля 5 мільёнаў чалавек. Супрацоўнікамі праведзена звыш 57 тысяч экскурсій і прачытана больш за 12 тысяч лекцый па гісторыі выяўленчага мастацтва. Зараз пры музеі працуюць некалькі лекторыяў, на якіх наведвальнікі знаёмяцца з беларускім, рускім і сусветным мастацтвам. Творы з фондаў музея пабывалі ў 55 краінах свету—у тым ліку ў Злучаных Штатах, Японіі, Мексіцы, Эфіопіі, Аўстраліі, Індыі, Швецыі, ГДР, Чэхаславакіі, Югаславіі. І ў самім ДММ БССР экспануюцца выстаўкі мастацтва з замежных музеяў. Заключаны дагавор аб творчым супрацоўніцтве паміж Дзяржаўным мастацкім музеем БССР і старэйшым музеем «Замкам на Вавелі» Кракава. Дагавор прадугледжвае абмен выставамі, дапамогу ў навуковых пошуках, абмен спецыялістамі двух музеяў.

Цесныя творчыя сувязі наладжаны паміж вядучымі музеямі Масквы, Ленінграда, Украіны, Літвы, Эстоніі, Азербайджана і іншых рэспублік.

Гаворачы пра нашы дасягненні, нельга не адзначыць тых людзей, хто бескарысліва, самаахвярна, штодзённа працавалі шмат гадоў у ДММ БССР і вывелі яго ў шэраг лепшых музеяў краіны, якія прысвяцілі ўсё сваё жыццё пачэснай

*Рэпартаж у нумар*

# «САМАЕ ЦІКАВАЕ—ГЭТА ЛЮДЗІ...»

У ЧАСЫ, калі праз гэтыя мясціны накіроўвалася з Масквы ў Варшаву Кацярына II, тут быў суцэльны лес і непраходныя балоты. Пракладвалі дарогу, праз кожныя 40 кіламетраў будавалі дамкі для царыцы, у якіх яна спынялася на адпачынак. Дамкі тыя служылі доўгі час паштовымі станцыямі, некаторыя з іх захаваліся да сённяшняга дня. Сам тракт назвалі Варшаўскім, а вёску каля старых гацяў—Старымі Дарогамі.

Пазней два прадпрымальныя купцы заняліся лесанарыхтоўкамі (што дасюль, дарэчы, працягваецца), і для вывазу лесу, натуральна, давялося будаваць чыгунку. Пра ўсё гэта расказвае нам у аўтобусе першы сакратар Старадарожскага райкома партыі Аляксандр Эдуардавіч Гавета.

Нас папярэдзілі, што мы едзем далёка не ў самы заможны раён Міншчыны. «Слабая гаспадарка», «убытачная ферма» — нязвыклыя для выязнога семінара выразы мы чулі тут неаднойчы. «Мы» — гэта група пісьменнікаў, падмацаваная кампазітарамі і мастакамі. Сам жа семінар называўся так: «Воблік сучаснай вёскі: людзі, праблемы, перспектывы». Пачаўся ён з сустрэчы ў РК КПБ, дзе побач з першым сакратаром сядзелі дзве сціплыя жанчыны—старшыня райвыканкома Т. Ф. Раманоўская і сакратар райкома партыі А. В. Трубчык. Яны амаль не бралі ўдзелу ў гаворцы і, як мне здалося, былі непрыемна ўражаны катэгарычнасцю і рэзкасцю некаторых нашых пытанняў і выказванняў.

**— Зноў паказчыкі, лічбы, зноў эканоміка. А дзе ж перабудова?**

**В. Якавенка, што называецца, ставіць пытанне рубам, маючы на ўвазе палітычны, духоўны аспект перабудовы. Як публіцыст, што неаднаразова пісаў пра сельскую гаспадарку, ён добра ведае, што гаспадарчымі справамі партыя займалася заўсёды і, на жаль, без асаблівага поспеху.**

**У Аляксандра Эдуардавіча свае довады:**

**— Нам на будаўніцтва выдзелілі 1 млн. капіталаўкладанняў, а пабудавалі мы жылля гаспадарчым спосабам на 7 млн. У раёне поўная забяспечанасць дзіцячымі садамі, няма другой змены ў школах. За апошнія тры гады спыніўся адток людзей з сяла. Хіба гэта не перабудова?**

Ды крупінкі дасягненняў і поспехаў патанаюць у адвалах нявырашаных, застарэлых праблем. Камбайн «Дон», скажам, каштуе 60 тысяч рублёў, нейкі дробны культыватарчык — паўтары тысячы. Між тым цэны на сельскагаспадарчую прадукцыю застаюцца нізкімі. Колькі эшалонаў збожжа трэба здаць дзяржаве, каб набыць новую тэхніку? Толькі 2,5 працэнта мяса, што здае раён, ідзе для яго жыхароў і прытым па кааператыўных цэнах. Толькі 15 працэнтаў насельніцтва карыстаецца водаправодам. Толькі на 40 працэнтаў заасфальтаваны вясковыя дарогі. Людзі на вёсцы — у параўнанні з горадам—па-ранейшаму абдзелены дабротамі і паслугамі, адчуваюць сябе істотамі другога гатунку. Расчараваў аграрнікаў і сакавіцкі Пленум ЦК КПСС.

Перш чым паехаць у калгасы, знаёмімся з самым буйным прадпрыемствам Старых Дарог — МПМК-232, што займаецца будаўніцтвам. Начальнік яго, Яўген Дзмітрыевіч Кандаураў, родам з-пад Растова, вучыўся ў Ленінградзе, а вось прыжыўся ў беларускім гарадку, і не толькі прыжыўся — відавочна знайшоў сябе як кіраўнік, як гаспадарнік, урэшце як асоба. Гэта пры ім будаўнікі пераабсталявалі закінутае памяшканне склада пад бытавы комплекс, абжыліся сваёй цяпліцай і узялі ў арэнду сад (нават мёд свой маюць!). Сучасна абсталяваны медпункт штогод абследуе здароўе работнікаў МПМК, прычым выяўлена, што хварэюць будаўнікі часцей за ўсё на «ціск» і страўнік. Давялося падумаць і пра харчаванне: сваімі сіламі абсталявалі кафэ. А з лазняй адбылася цэлая гісторыя. Некалі давялося разабраць ужо ўзведзены фундамент пад яе: так народны кантроль «эканоміў» народныя грошы. Начальнік атрымаў строгую вымову. Лазню ўсёткі пабудавалі, але цішком і ў іншым месцы, карыстаецца яна вялікім попытам, а ў басейне вучні з бліжэйшай школы праводзяць урокі фізкультуры—вучацца плаваць.

Гонар прадпрыемства і ўсяго раёна—футбольная каманда «Будаўнік», што ўваходзіць у вышэйшую лігу рэспублікі. Пакуль мы абедалі, Яўген Дзмітрыевіч, так і не прысеўшы, паказваў нам здымкі мясцовых футбалістаў, а таксама ігракоў мінскага «Дынама», што неаднаразова тут наладжвалі матчы.

КАТОРЫ РАЗ пераконваюся, што пры недасканаласці эканамічных і ўпраўленчых механізмаў чалавеку, асобе належыць немалая роля. Вось, напрыклад, старшыня калгаса «10 год Кастрычніка», былы парторг Сяргей Іванавіч Дарашэнка. Першае, што ён зрабіў, заступіўшы на пасаду,—аддаў ладную кантору пад пачатковую школу, а сам разам з бухгалтарамі перабраўся, як нам сказалі, у «развалюху».

Або кіраўнік другога калгаса, буйнейшага ў раёне,—імя Скварцова і Маёрава — Іван Сяргеевіч Бродскі. Працаваў у РАПА, ва ўпраўленні сельскай гаспадаркі, а потым пайшоў старшынёй. «Тут жа зробіш што, дык бачыш сваю работу, а там...» Пабачылі работу старшыні і мы. Перш за ўсё паказалі нам так званы падсобны промысел. Чатыры прамысловыя цэхі, саматужная амаль праца, невялікая колькасць занятых людзей, а прыбытак ёсць і карысць таксама. Раздабылі стары заводскі спісаны станок—немаведама якога года выпуску—і робяць цвікі. З вялікай цяжкасцю дасталі два аўтаклавы — і плаўна едуць па канвееру банкі з тушонкай. Учарашніх школьніц пасадзілі шыць прасціны і спяцоўкі — вось і нявесты для юнакоў-механізатараў. А яблыкі, што па ўсёй рэспубліцы прападаюць, гінуць сотнямі тон, ідуць на жэле, адпраўляюцца на цукерачныя фабрыкі Мінска, Бабруйска, іншых гарадоў рэспублікі і краіны. Плануецца пабудаваць цяпліцу, а таксама лінію для вырабу дзіцячага харчавання. Наконт апошняга прыязджалі прадстаўнікі з Польшчы і Аўстрыі: вытворчасць будзе сумеснай. І ўсё гэта ўдалося зрабіць толькі ў апошнія гады, у новых умовах гаспадарання.

Трошкі патлумачу назву гаспадаркі. Скварцоў і Маёраў—гэта прозвішчы чырвонаармейцаў, замучаных у час акупацыі белапалякамі. Іх імёны навечна засталіся ў памяці людзей і ў назве калгаса.

Зацікавіла ўдзельнікаў выязнога семінара і наступнае пачынанне, надзвычай, як мне думаецца, перспектыўнае. Былы калгасны спецыяліст, зараз пенсіянер Георгій Сяргеевіч Капачэня стаў на чале сельскагаспадарчага кааператыва, або камунгаса, як яго тут завуць. Перакрыць хату, скласці печ, падвесці і распілаваць лес, узараць соткі, змалоць жыта на муку — вось далёка не поўны пералік паслуг, якімі карыстаюцца сельскія працаўнікі. А сярод іх, згадаем, шмат старых людзей, адзінокіх бабуль, — тых, каму раней даводзілася ісці са сваімі клопатамі ў праўленне. Зараз справа пастаўлена інакш. Памяркоўныя цэны, выдзелены калгасам трактар — і поўны гасразлік. Вёска Языль, цэнтральная сядзіба калгаса, мае 500 двароў, так што бес-

*Ліст у рэдакцыю*

# ВАКОЛ МУЗЕЯ

### Развагі пасля юбілею

справе захоўвання нацыянальнай спадчыны, яе прапагандзе. Гэта, у першую чаргу, А. Рэсіна, В. Чуркіна, І. Паньшына, Т. Сцёпіна, Н. Высоцкая, С. Кітаніна, Т. Карповіч, Р. Бадзін, Л. Белікава, Р. Ібрагімаў і іншыя. 42 гады свайго жыцця аддаў музейнай справе Вячаслаў Браніслававіч Зелянко, які працуе і зараз. Працуючы шмат гадоў загадчыкам майстэрань музея, ён адказваў за ўпакоўку твораў на выставы, за іх афармленне.

Амаль кожны выступаючы на ўрачыстым вечары адзначаў вялікія заслугі былога дырэктара музея Алены Васільеўны Аладавай, якая аддала ўсё сваё жыццё адраджэнню і станаўленню музея. Пад яе кіраўніцтвам ён стаў вядомы ў краіне і па-за яе межамі.

Многа новых форм прапагандысцкай работы ўжываецца ў апошнія гады музеем. Гэта лекторыі выхаднога дня, сярод якіх асаблівай цікавасцю карыстаецца лекторый для дзяцей малодшага школьнага ўзросту, музычныя вечары ў музеі, гурткі юных мастацтвазнаўцаў.

Дзяржаўны мастацкі музей БССР адзіны з музеяў рэспублікі, які мае такую колькасць філіялаў. Прымаюць наведвальнікаў музей народнага мастацтва ў Раўбічах пад Мінскам, музей В. Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве, вясковая карцінная галерэя ў вёсцы Гурыны Мазырскага раёна. У гэтым годзе адкрылася выставачная зала ў Манастырскім падвор'і ў Гальшанах, дзе вядзецца зараз рэстаўрацыя. У будучым годзе плануецца адкрыць экспазіцыю ў частцы замка ў Міры. Калі Белрэстаўрацыя адолее рэстаўрацыю сядзібы Валенція Ваньковіча, то ў 1990 годзе прыме наведвальнікаў і гэты філіял музея (экспанаты музеем сабраны, абсталяванне зроблена), справа за рэстаўратарамі. Вядуцца праектныя работы па рэстаўрацыі сядзібнага дома ў Лошыцы на ўскраіне Мінска.

Нядаўна Міністэрствам культуры было прапанавана музею ўзяцца за стварэнне музея тэатральнага і музычнага мастацтва, які размесціцца ў Верхнім горадзе ў адрэстаўрыраваных помніках архітэктуры.

З дапамогай супрацоўнікаў музея былі адчынены карцінныя галерэі ў Магілёве ў будынку, дзе размяшчаўся гарком партыі, г. Горкі Магілёўскай вобласці і ў мястэчку Зембін на Барысаўшчыне. Супрацоўнікі музея аказвалі дапамогу супрацоўнікам Віцебскага абласнога краязнаўчага музея па стварэнні экспазіцыі ў Здраўнёва.

Улічваючы высокі прафесійны ўзровень супрацоўнікаў і вялікі вопыт у стварэнні музеяў, Міністэрства культуры БССР надало яму абавязкі метадычнай работы па стварэнні экспазіцый, карцінных галерэй і мастацкіх музеяў.

Вялікую патрэбную справу робяць супрацоўнікі музея і па развіцці самога музея. За пасляваенны час у фондах музея сабрана і навукова апрацавана больш за 20 тысяч экспанатаў беларускага, рускага і замежнага мастацтва, але гледачы могуць пазнаёміцца толькі з невялікай часткай гэтага духоўнага багацця. Чаму ж так атрымліваецца?

Звернемся да гісторыі. Першая экспазіцыя адкрылася напярэдадні кастрычніцкіх свят у 1939 годзе ў памяшканні былой Вышэйшай камуністычнай сельскагаспадарчай школы па вул. Карла Маркса. Як паведамляла газета «Звязда» 15 чэрвеня 1939 года «У новы будынак перавезена ўжо каля 600 карцін, гравюр, скульптур». Да пачатку Вялікай Айчыннай вайны фонды галерэі налічвалі больш за 4 тысячы экспанатаў. У гады вайны амаль уся калекцыя была знішчана за выключэннем некалькіх экспанатаў, якія былі адпраўлены перад вайной на выставы.

Адразу пасля вызвалення Мінска пачалася праца па адраджэнні галерэі. Супрацоўнікі Карціннай галерэі на чале з А. Аладавай актыўна пачалі пошукі экспанатаў для будучай галерэі. У выніку экспедыцый па рэспубліцы, паездак у Маскву, Ленінград і іншыя гарады краіны з'яўляліся новыя экспанаты для галерэі. Кантакты з мастакамі Беларусі таксама спрыялі папаўненню творамі фондаў галерэі. (Яны размяшчаліся ў будынку Дома прафсаюзаў, што стаіць і цяпер на плошчы Свабоды). Дарэчы, трэба адзначыць такі момант. У першыя дні пасля вайны, калі не хапала жылля (значная частка жыхароў Мінска жыла ў паўразбураных будынках альбо зусім у зямлянках), усё ж такі было знойдзена месца для Карціннай галерэі, музея Айчыннай вайны. Цяпер гэтаму можна толькі здзіўляцца, бо дэфіцыт, які атачыў нас з усіх бакоў, здаецца, нарадзіў адзіную на ўсіх думку: як бы задаволіць нашы матэрыяльныя патрэбы. На духоўны дэфіцыт ніхто не звяртае ўвагі. Напэўна, людзі, нацярпеўшыся жорсткасцей вайны, адчувалі большую патрэбу ў духоўным узнаўленні, чым мы зараз.

Прайшоў некаторы час, цесна стала ў памяшканні галерэі, паўстала пытанне аб будаўніцтве спецыяльнага будынка для яе. Па даручэнні ўрада рэспублікі архітэктарамі на чале з М. Бакланавым быў распрацаваны праект будынка, які прадугледжваў дзве чаргі будаўніцтва. Першая была пабудавана ў 1957 годзе і адчыніла дзверы для наведвальнікаў, другая ж да гэтага часу існуе толькі на паперах. Колькі за гэты час нарад прайшло, колькі прынята розных загадаў, распараджэнняў, пастаноў, а справа па-ранейшаму не зрушылася з месца.

Як толькі была адбудавана першая чарга музея, пачаліся клопаты пра далейшае будаўніцтва, бо кожнаму вядома, што музей тая арганізацыя, якая накоплівае экспанаты і павінна іх захоўваць; спісваць або знішчаць іх нельга. Акрамя таго, першая чарга музея не прадугледжвала фондасховішчаў, рэстаўрацыйных майстэрань і другіх падсобных памяшканняў, якія з'яўляюцца неад'емнай часткай кожнага музея. Усё гэта было прадугледжана ў другой чарзе.

Праз некаторы час у канцы 1970-х гадоў, нарэшце, было вырашана прадоўжыць будаўніцтва, але не доўга давялося радавацца супрацоўнікам музея. Вядома, застойная пастанова аб кансервацыі будаўніцтва ўстаноў культуры загубіла мару атрымаць другую чаргу музея. Новы віток хаджэння па інстанцыях даў плён у 1985 годзе, калі рашэннем урада рэспублікі было прапанавана вырашыць станоўча праблему музея. Так як стары праект не адпавядаў да гэтага часу сучасным патрабаванням захавання музейных экспанатаў, было вырашана рабіць новы праект. Група архітэктараў на чале з В. Бялянкіным распрацавала новы праект другой чаргі музея. Урадам былі выдзелены сродкі для будаўніцтва, была ўзгоднена будаўнічая арганізацыя, засталося толькі будаваць, але ўзніклі новыя пытанні.

Па-першае, трэба было дамовіцца, каб Вышэйшая партыйная школа перавяла свае службы з двухпавярховага дома, які пападаў пад новае будаўніцтва і павінен быў знесены. Вырашалі гэтае пытанне, будаўнікі паставілі другое. Спілуйце, кажуць, дрэвы, тады будзем будаваць... Спілавалі. Супрацоўнікі музея замест таго, каб займацца сваёй непасрэднай працай, перакваліфікаваліся ў лесарубаў, пілавалі, грузілі, вазілі. Здаецца, усё зрабілі — будуйце, калі ласка. Прывезлі некалькі шчытоў плота, паставілі ізноў кропку. Кажуць, жыхары з дома № 25, што па вул. Кірава, не даюць згоды на будаўніцтва.

Не так даўно ў памяшканні мастацкага музея адбылася сустрэча жыхароў гэтага дома, прадстаўнікоў гарвыканкома, Міністэрства культуры БССР, адміністрацыі музея. Рашалі пытанне далейшага лёсу будаўніцтва.

Сутнасць справы ў тым, што калі ўзнікла пытанне аб нязручнасці для жыхароў у выніку стварэння прыбудовы да музея, Савет Міністраў БССР вынес рашэнне прадаставіць жыхарам кватэры ў другім месцы. На гэтай сустрэчы прадстаўнікі гарвыканкома запэўнілі жыхароў, што іх правы не будуць ушчэмлены і яны атрымаюць раўнацэнныя кватэры, толькі, маўляў, дазвольце пачаць будаўніцтва, бо музей знаходзіцца ў пагражальным стане. Тэрмінова трэба ратаваць нацыянальнае багацце. Камунікацыі больш за трыццаць гадоў не рамантаваліся, пры аварыі можа здарыцца непапраўнае. Выдзяленне новых кватэр павінна пачацца ў 1990 годзе, а цяпер трэба пачаць хоць бы падрыхтоўку да будаўніцтва, каб у будучым годзе больш інтэнсіўна, пасля высялення жыхароў, разгарнуць будаўнічыя работы. Жыхары ж, пагражаючы рознымі скаргамі, патрабавалі ад Мінгарвыканкома, каб нават падрыхтоўка да будаўніцтва не вялася. Мінгарвыканком здаўся, будаўнікі ж нават узрадаваліся, бо нязручны, нявыгадны для іх гэты аб'ект.

Такім чынам, пакуты музея прадаўжаюцца. Хутка, калі так пойдзе справа, музей будзе вымушаны закрыць апошнія залы...

**К. ФЕДАРЫШКІН,**
**галоўны захавальнік Дзяржаўнага мастацкага музея БССР.**



У музеі самадзейнага мастака І. ЛІЗУРЫ (аўтар — крайні справа).



Гаворка з самымі маленькімі. Дзіцячы сад калгаса «Герой працы».

працоўе кааператарам не пагражае.

Дарэчы тут будзе адзначыць, што Старадарожскі раён адзін з першых у рэспубліцы перайшоў на новую форму аплаты — ад канчатковай прадукцыі. Калі недавыкананы план — гэта адбіваецца на заробку і галоўных спецыялістаў, і работнікаў аддзела кадраў, і бухгалтараў, — літаральна ўсіх. Ці дало гэта прыкметны вынік? Пакуль што не бачна...

ХОЦЬ ПРАГРАМА семінара (а ён быў двухдзённы) прадугледжвала знаёмства ў асноўным з сацыяльна-эканамічным развіццём раёна, усё ж не абышлі пытанняў асветы, культуры. Пазнаёміліся мы з рэзчыкам па дрэве Ігарам Іванавічам Лізурам, пaглядзелі музейчык, спрэс застаўлены яго самабытнымі вырабамі. Сярод іх і выявы людзей — дзед Вікенцій, Юзічак, Вова-баяніст, рыбак; усе сагрэтыя ўсмешкай, дабрынёй. І ладная кампанія міфічных істот — ведзьмы, лесавікі, дамавікі, зноў-такі ачалавечаныя гумарам. І вялікая колькасць дасціпных шахматных фігурак... Пад кожнай работай — подпіс, своеасаблівы каментарый, пазначаны мастацкай зоркасцю і чуйнасцю да слова. Дзіўна было даведацца, што аўтар, работы якога экспанаваліся на выставах Польшчы і ГДР, нават не мае звання народнага майстра.

Раздзяліўшыся на творчыя групы, мы выступалі ў новай раённай бальніцы, у сярэдняй школе № 4, у калгасе «Дружба», на маслазаводзе. Школа, дзе давялося пабываць У. Рубанаву, В. Войціку і мне, мае эстэтычны ўхіл. У ёй працуюць танцавальныя гурткі, хор хлопчыкаў, групы выяўленчага мастацтва. Рытміка тут — паўнацэнны школьны прадмет, яна ўведзена ў расклад. І што — з непрывычкі — звяртае на сябе ўвагу: беларускае слова і нацыянальная сімволіка ў афармленні — тое, што нічога не каштуе і чаго так цяжка дамагчыся ад органаў народнай адукацыі.

— Дык што, будзем размаўляць па-беларуску? — звяртаецца да старшакласнікаў сакратар абкома У. Д. Атрошчанка. Настаўнікі школы яго ведаюць і пры выпадку не забываюць выказаць свае просьбы, паскардзіцца на цяжкасці. Адзін камп'ютэр на школу — хіба гэта нармальна?..

У садках раёна — новыя, беларускія праграмы дашкольнага выхавання. Але няма аднадушша ў выхавацелек. Калі адна, напрыклад (калгас «Герой працы»), піша на роднай мове планы, размаўляе з дзецьмі, то другая (калгас «10 год Кастрычніка») заяўляе, што з мовай праблема і спасылаецца на адсутнасць метадычных распрацовак.

Даўнія, пажаўцелыя ад часу надпісы тыпу «ткацкий станок» псуюць уражанне і ад добрага ўвогуле музея ў Горкаўскай СШ. Школа гэта старэйшая ў раёне, з добрымі традыцыямі: у 1979 г. яна адзначыла сваё стагоддзе. Аднак статыстыка сумная. Калі ў канцы 50-ых гг. у ёй навучалася звыш 400 дзяцей, то зараз толькі 130.

Такое ж становішча ва ўсіх, бадай, вясковых школах. Дык ці варта дзівіцца, што ў цэлым раёне не знайшлося ахвотніка ўзяць у арэнду зямлю ці ферму? Нават бульбу ў калгасах выбіраць няма каму. Сёлета студэнты працавалі мала, — уступіў у сілу прынцып добраахвотнасці. «Якая можа быць добраахвотнасць, калі завал з харчовай праграмай, калі ўраджай гіне?!» — абураюцца гаспадарнікі. Падтрымлівае іх у гэтым пытанні і сакратар абкома партыі К. К. Дзягілеў (ён разам з У. Д. Атрошчанкам і А. М. Рабіцавай суправаджае творчую групу). Кузьма Кузьміч усё сталае жыццё прысвяціў сельскай гаспадарцы і не стамляецца прыкмячаць, як часта, многа і ахвотна дзяржава крыўдзіць нашу вёску.

У калгасе «Сцяг камунізму» пасля знаёмства з толькі што адбудаванымі Домам жывёлавода і Домам механізатара зноў адбылася спрэчка. Чаму сацкультбыт (моднае цяпер слоўца!) развіваецца ў асноўным на вытворчасці, а самі вёскі падчас застаюцца без клуба, без лазні? Чаму чалавек па-ранейшаму не адчувае сябе гаспадаром на зямлі? Чаму затрымліваецца прыняцце Закона аб зямлі? Да пытання пра ўласнасць старшыня калгаса Л. С. Пархімовіч прывёў мясцовы жарт: «Калгасныя пчолы — такія гультаі, не вытурыць з вулля, а нашы лятуць і лятуць...»

Мы смяёмся, але, згадзіцеся, задумацца ёсць пра што...

І ВОСЬ — падвядзенне вынікаў семінара.

**К. Цвірка.** Такія паездкі — карыснае пачынанне Мінскага абкома. Старадарожскі раён ведаю знутры, са сваёй Зялёнай Дубровы і рады таму, што ён ідзе на ўздым.

**В. Войцік.** Самае цікавае, што мы пабачылі, гэта не сауны і не фермы, а самі людзі. А сустрэч з працаўнікамі вёскі было ўсё ж малавата.

**У. Рубанаў.** Арганізацыя семінара выключная, нідзе ніводнай затрымкі. Нам хацелі паказаць, што ў раёне зроблена для людзей. А галоўная задача — як разняволіць вяскоўца, як вярнуць яму пачуццё гаспадара.

**М. Бушчык.** Усё, што ў раёне зроблена, тычыцца больш «цела», чым душы. Не адчуваецца духоўнай атмасферы, няма цягі ў простага чалавека да культуры, да мастацтва, да сваіх каранёў.

**І. Міско.** Дзякуючы такім паездкам, мы знаёмімся і адзін з адным. Не сакрэт, што нашы творчыя саюзы раз'яднаны, што многіх творцаў мы ведаем толькі па прозвішчах.

**І. Шальманаў.** Улады паварочваюцца тварам да чалавека працы — вось самае асноўнае, што я вынес з паездкі ў Старыя Дарогі.

Як бачым, у кожным выказванні ёсць свая праўда...

**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**спецыяльны карэспандэнт «ЛіМа».**

**Менш года застаецца да адкрыцця XXVIII з'езда КПСС, на які збяруцца прадстаўнікі дваццацімільённага атрада камуністаў краіны, каб вызначыць далейшы лёс партыі. Але ўжо сёння агульныя контуры абноўленай КПСС паўстаюць у перадз'ездаўскай дыскусіі, што набірае моц у партыйных арганізацыях і на старонках друку.**

**Камуністы нашай рэспублікі таксама крочаць насустрач свайму вышэйшаму форуму — XXXI з'езду Кампартыі Беларусі, на якім належыць прыняць праграму дзейнасці рэспубліканскай арганізацыі, вызначыць яе ролю і месца ў абноўленай КПСС. Напярэдадні з'езда многае трэба пераасэнсаваць, што і спрабуе рабіць у сваім артыкуле малады філосаф і публіцыст А. Майсеня.**

# «БАЯЦЦА НАРОДА НЯМА ЧАГО...»

**Палемічныя нататкі аб шляхах дэмакратызацыі партыі**

ТАК, менавіта аб партыі, якая знаходзіцца сёння на пераломе, наша гаворка. Ці здолее партыя адстаяць свае права быць палітычным авангардам у грамадстве? Ці можа даказаць сваю здольнасць да самаабнаўлення і самаразвіцця? Пытанні не надта звыклыя, аднак жа — яны ўзнікаюць і шукаць адказы на іх трэба, бо лёс партыі — гэта лёс перабудовы, лёс усяго нашага грамадства. Партыя ўзяла на сябе адказнасць за палітыку рэвалюцыйных пераўтварэнняў. І калі яна «хоча быць палітычным авангардам грамадства, выконваць гэтую місію і далей, а грамадства мае патрэбу ў такой авангарднай сіле, носьбіце праграмных мэт, партыя павінна і перабудоўвацца хутчэй, чым грамадства» (М. Гарбачоў). Мінулі часы, калі кіруючая роля партыі пастуліравалася на ўзроўні гістарычнай непазбежнасці. Сёння відавочна, што ніякая дэкляраваная па сацыяльным заказе гістарычная непазбежнасць, няхай нават і падмацаваная канстытуцыйным палажэннем, не зможа пазбавіць партыю ад неабходнасці лічыцца з законамі грамадскага развіцця, праводзіць карэнныя пераўтварэнні ўнутры сябе, у сваёй дзейнасці на кожным вітку спіралі грамадскага прагрэсу. Патрэбен палітычны рэалізм, патрэбен цвярозы аналіз цяперашняй грамадска-палітычнай сітуацыі ў духу ленінскага мыслення: «Сіла наша была і будзе ў тым, каб цвяроза ўлічваць самыя цяжкія паражэнні, пераймаючы іх вопыт таго, што належыць змяніць у нашай дзейнасці. І таму трэба гаварыць адкрыта. Гэта цікава і важна не толькі з пункту гледжання тэарэтычнай праўды, але і з практычнага боку. Нельга навучыцца рашаць свае задачы новымі прыёмамі, калі наш учарашні вопыт не адкрыў вочы на няправільнасць старых прыёмаў».

Гэтага ленінскага дыялектычнага мыслення, гэтага ўмення і пераканансці «гаварыць адкрыта» нам якраз сёння і не хапае. А вось заклінанняў імем Леніна ў лепшых традыцыях мінулага, калі асвячалі ім далёка не праведныя справы, ажно занадта. Як гаварылі старажытныя, мёртвыя хапаюць жывых: псіхалагічныя і ідэйныя стэрэатыпы—рэч вельмі жывучая, яны па загаду не адыходзяць. І сёння, у перыяд перабудовы і пад яе прыкрыццём, нараджаюцца па вобразу і падабенству застойнага мінулага новыя міфы і дагматы, і зноў эксплуатуюць светлае імя правадыра, называючы ленінскім тое, што нічога агульнага з ім не мае.

Думаецца, што менавіта старое мысленне блакіруе дэмакратычную перабудову ў партыі, што менавіта тут тлее небяспечны ачаг тэрмідора. Каб убачыць вялікую хлусню, якую сёння пускае ў ход дзеля свайго выратавання кансерватыўна-дагматычная частка апарату, дастаткова параўнаць усё тое, што яна гаворыць, з ленінскімі палажэннямі, з ленінскімі вывадамі аб прынцыпах партыйнага жыцця. Успомнім, якія жорсткія дыскусіі праходзілі ў партыі напярэдадні X з'езда РКП(б), як блізка падступіла тады небяспека фракцыйнага расколу ў партыйных радах. Ленін выдатна разумеў, што толькі свабода крытыкі, свабоднае спаборніцтва розумаў і ідэй можа выратаваць партыю ад пагрозы фракцыйнага расколу, і ў гэтай свабодзе—зарука адзінства і цэласнасці партыі.

Адзінства можа быць толькі дэмакратычным, адзінства ў шматграннасці пры дапамозе шматграннасці — паміж гэтай жыццесцвярджальнай ленінскай логікай і тым старым апаратным мысленнем, якое заганяе партыю ў аднадумнасць застою, ляжыць бездань.

Вось, калі ласка. Усялякая, нават канструктыўная крытычная размова аб партыі, што ідзе знізу, амаль тут жа перапыняецца знішчальным аргументам «партыя пачала перабудову», у якім невядома чаго болей — ці прызнання факта, ці колішняга воклічу «не пушчаць». З самім фактам ніхто не спрачаецца, толькі ж факт сам па сабе яшчэ не вызваляе партыю ад неабходнасці прыслухоўвацца да крытыкі «знізу». У імя чаго пачынала партыя перабудову, калі манаполія на крытыку захоўваецца? Хто ж тады перабудоўваецца і як? Прызнанне прыярытэту партыі ў справе перабудовы, калі за гэтым прызнаннем не бачна імкнення па-новаму асэнсаваць ролю і задачы партыі, дае мала карысці, нясе толькі кансерватыўна-ахоўную нагрузку.

Гісторыю робяць людзі. Перабудова, як любы прынцыповы паварот у грамадскім развіцці, сваімі мэтамі і задачамі згуртавала вакол сябе людзей, якія мысляць і дзейнічаюць па-новаму. Значнае абнаўленне складу Палітбюро і ЦК партыі, прывядзенне да прысягі перабудовай цэлага корпуса першых сакратароў ЦК саюзных рэспублік, крайкомаў, абкомаў яшчэ раз пацвярджае, што нельга ісці ў рэвалюцыю са старымі кадрамі, якія на сваіх плячах трымалі антыдэмакратычны, каманднa-бюракратычны рэжым.

Словам, наша цяперашняе становішча, у тым ліку і становішча партыі, у многім яшчэ вызначана мінулым. Скажам, яшчэ не знікла да канца звычка тлумачыць рознага роду хваробы ў нашым грамадстве «радзімымі плямамі капіталізму», якія, маўляў, дасталіся нам з дакастрычніцкіх часоў, а ў нас з зайздроснай упартасцю адмаўляюцца заўважаць «радзімыя плямы» не такой ужо аддаленай эпохі — дэфармаванага сацыялізму і дэфармаванага аблічча партыі. Быццам і сапраўды, варта толькі аб'явіць у грамадстве «перабудову», абвясціць яе прынцыпы, і яна ў адно імгненне здзейсніцца, пакідаючы ў гістарычным мінулым усё непрыгоднае, што аджыло свой век.

Трэба з ленінскай прасталінейнасцю прызнаць, што небяспека адрыву партыі ад мас, якая стала вельмі адчувальнай у лікавыя гады «застою», не пераадолена і сёння, што грамадская думка выяўляе даволі высокі ўзровень негатыўнасці ў адносінах да партыі. Тыя, хто з высокіх трыбун сее ілюзіі поўнага дабрабыту і шчасця, хто працягвае ў старым ключы зараджаць масы гістарычным аптымізмам, робяць партыі кепскую паслугу. Такія лідэры здольныя толькі забалбатаць перабудову, дыскрэдытаваць партыю ў вачах народа. Не па прамовах мяркуюць сёння людзі аб адносінах партыйных камітэтаў да перабудовы, а па тых пераменах, якія яна прынесла ў іх жыццё. А трэба зазначыць, што яны далёка не заўсёды да лепшага. Да цяперашняй сітуацыі як нельга лепш стасуюцца словы Леніна, сказаныя ім на XI з'ездзе РКП(б); «...у тым справа, што мінулі часы, калі трэба было развіваць праграму і заклікаць народ да выканання гэтай вялікай праграмы. Гэты час мінуў, цяпер трэба даказаць, што вы пры цяперашнім цяжкім становішчы ўмееце практычна памагчы гаспадарцы рабочага і мужыка...».

Ва ўмовах, калі становішча народа абвастрылася яшчэ больш, калі адбылося падзенне рэальнага ўзроўню жыцця людзей, як ніколі ўзнімаецца ў цане ўменне гаварыць з народам адкрыта, па шчырасці, раіцца і спавядацца перад ім па ўсіх значных праблемах жыцця грамадства. Выявіць такое ўменне не проста, для гэтага трэба разбурыць карпаратывісцкае мысленне ўнутры партыйнага апарату, якое складвалася доўгія дзесяцігоддзі і ставіла яго над народам, па-за публічнай крытыкай. Перабудова прынесла ўсведамленне такога перавароту ў партыйнай палітыцы, якое прагучала ў вуснах М. С. Гарбачова: «Лічу, што пытанне павінна стаяць так: партыя на службе народа. Гэта галоўнае. Яна адказвае за палітыку, а таму не можа быць па-за крытыкай, не ацэненай народам».

Што можа быць прасцей за гэту ісціну? Усё, здавалася б, ясна, як божы дзень. Але на гэтай прастаце многія партыйныя работнікі якраз і спатыкнуліся — не гатовыя яны адказваць ні перад кім. Крытыка «знізу» выклікае ў іх — выпеставаных апаратнай сістэмай, прывыкшых камандаваць і не прывыкшых слухаць — успышку алергіі. А ўслед за гэтым з розных трыбун, у тым ліку і рэспубліканскіх, гучаць грозныя водпаведзі «палітычным экстрэмістам». У іх адна мэта — адбіць ахвоту крытыкаваць «вярхі», прыструніць «расперазаных» смельчакоў, запусціць механізм націску на іх. У ход ідзе, скажам, такі аргумент: гэтыя экстрэмісты стараюцца зганьбіць сумленныя партыйныя кадры, перш наперш партыйных кіраўнікоў. Што ж, бывае, калі канструктыўная крытыка падмяняецца галаслоўным крытыканствам, калі на палітычную авансцэну няструмна лезуць дэмагогі. Але ці варта на гэта спісваць сёння ўсю публічную крытыку? Трэба проста ўмець своечасова аддзяляць муць ад галоўнага ачышчальнага патоку і не трэба ў кожным выпадку крытыкі «вярхоў» бачыць злосныя намеры супраць партыі. Урэшце, мо варта і задумацца, чаму ўсе гэтыя «палітычныя экстрэмісты» вядуць прыцэльную крытыку супраць асобных партыйных кіраўнікоў? Што перашкаджае гэтым самым партыйным кіраўнікам прынародна выкрыць крыкуноў, адстаяць у бескампраміснай спрэчцы, апелюючы да народа, гонар партыі і адданых яе справе камуністаў? Праўда ж хлусні не баіцца. Перашкаджае ж ім зачараванасць старымі догмамі і стэрэатыпамі, нежаданне мяняць што-небудзь у існуючым дагэтуль становішчы. У дадатак і форма гэтых водпаведзей экстрэмістам узята з узораў трыбуннага прамоўніцтва мінулых гадоў — «злосныя недругі і дэмагогі ўсіх масцей, скарыстоўваючы створаны не без іх дапамогі матэрыяльны і духоўны дэфіцыт, накіроўваюць супраць сацыялізму ядавітыя стрэлы паклёпу, варожасці». Вось-вось з'явяцца і «ворагі народа», а там і заклік выкараняць іх. У імя перабудовы і перамогі сацыялізму.

Не варта на партыю перакладваць свае беды і немачы. Час адрадзіць інстытут персанальнай адказнасці. Тады і паменшае ахвоты спекуляваць абстрактным паняццем «партыя», якую, як гаварыў адзін з герояў Платонава, і ў твар не пазнаеш, і адчуць цяжка. Партыйная палітыка павінна фарміравацца ў імёнах і асобах, каб людзі ведалі, з каго канкрэтна можна спытаць за тое або іншае рашэнне.

Цярпімасць да крытыкі становіцца ледзь не асноўным крытэрыем дэмакратычнага перабудовачнага мыслення. Часы, калі партыйны апарат вяршыў палітыку ад імя народа, не пытаючыся на тое ў яго дазволу, мінаюць. Поспех партыйнай палітыкі сёння залежыць ад таго, наколькі яна ўлічвае і адпавядае рэальным людскім запатрабаванням і спадзяванням. Партыйныя камітэты павінны, нарэшце, на справе павярнуцца да мас тварам і замест таго, каб па адпрацаванай дзесяцігоддзямі інстынктыўнай звычцы выступаць ад імя народа, нібы і сапраўды народ здаў ім свае імя ў вечную арэнду, глыбей і больш грунтоўна вывучаць грамадскую думку, унікаць у настроі людзей. Настаў час зрабіць партыйную работу адкрытай і даступнай для шырокіх мас. Сапраўды: дзейнічаем ад імя народа і на карысць народа і тут жа ўтойваем ад яго нашы партыйныя справы. Чаму і дагэтуль існуюць закрытыя партыйныя архівы? Чаму дагэтуль з партыйных камітэтаў рэспублікі выходзяць пастановы з грыфам «сакрэтна» або «для службовага карыстання»? Што тайнага можа быць у высакароднай дзейнасці партыі ў імя народа?

У. І. Ленін у цяжкі для партыі час пераходу ад «грамадзянскай вайны» да «грамадзянскага міру» гаварыў, звяртаючыся да сваіх таварышаў, аб неабходнасці «...ажыўляць Саветы, прыцягваць беспартыйных, правяраць беспартыйнымі работу партыйных—вось гэта абсалютна верна. Вось дзе работы процьма». Там, дзе Ленін бачыў абавязковую ўмову заваёвы партыяй даверу ў народа, сёння асобныя партыйныя лідэры ўмудраюцца бачыць замах на аўтарытэт партыі або «палітычны экстрэмізм».

І на завяршэнне — яшчэ адно выказванне Леніна: «Баяцца народа няма чаго. Рашэнне большасці рабочых і сялян не ёсць анархія. Такое рашэнне адзіна магчымая зарука дэмакратыі наогул і поспеху ў пошуку мер пазбаўлення ад разрухі ў прыватнасці».

Так, баяцца народа няма чаго. Трэба вучыцца яго разумець, трэба прыслухоўвацца да народа. У гэтым — грунт, аснова партыйнай перабудовы.

●

**У якасці пастскрыптума дазволю сабе невялічкае адступленне. Калі гэты артыкул быў ужо падрыхтаваны да друку, у «Правде» і рэспубліканскіх газетах з'явілася інтэрв'ю першага сакратара ЦК КПБ Яфрэма Яўсеевіча Сакалова. Наш партыйны лідэр выступае, цытую, «за разумны прагрэсіўны кансерватызм, які, як вядома, выконвае ў грамадстве свайго роду ахоўную функцыю, не дае магчымасці сцвярджацца навацыям дзеля навацый, агульнаму нігілізму». Рашуся выказаць свой погляд, паспрачацца з гэтым сцвярджэннем.**

**Па-першае, бянтэжыць спалучэнне двух гэтых слоў—«прагрэс» і «кансерватызм». Ніколі яшчэ за ўсю гісторыю чалавецтва прагрэс не дасягаўся з дапамогай кансерватызму. Хоць бы па той простай прычыне, што кансерватызм увогуле пазбаўлены здольнасці генерыраваць сацыяльныя навацыі. Яго прызначэнне ў іншым — ахоўваць ад разбурэння статус-кво ў грамадстве, і ў гэтай сваёй якасці ён выступае праціўнікам рашучых перамен.**

**Так, кансерватызм можа быць разумным, але толькі ў выпадку, калі процідзейнічае дэстабілізацыі і наступленню анархіі ў выніку накаплення ў грамадскім арганізме «крытычнай масы» перамен. Ды толькі—і гэта мой другі аргумент—ці ж нашаму грамадству сёння пагражае перанасычанасць рэформамі? Што ж у такім разе можа ахоўваць «разумны, прагрэсіўны кансерватызм»? Нічога, акрамя, зразумела, учарашняга дня.**

**На цяперашнім этапе перабудовы, калі рэформы ажыццяўляюцца з найвялікшымі намаганнямі, а то і прабуксоўваюць у выніку іх палавіністасці; калі ў чарзе ўсё яшчэ стаяць кардынальныя пытанні абнаўлення эканамічнага і сацыяльна-палітычнага ладу, — кансерватызм не мае пад сабой асновы.**

**Між тым, менавіта кансерватыўна-ахоўнае мысленне прагглядвае ў некаторых палажэннях Платформы Кампартыі Беларусі да маючых адбыцца выбараў. На іх фоне выгодна адрозніваюцца разняволенасцю думкі, інтэлектуальным і дэмакратычным патэнцыялам адпаведныя перадвыбарчыя дакументы, прынятыя шэрагам партыйных камітэтаў гарадскога і раённага звяна.**

Анатоль МАЙСЕНЯ,
кандыдат філасофскіх навук.

## Крытыка, бібліяграфія

Лідзія САВІК

# „ПА ЯКОЙ МЫ ПЛАЦІМ МЕРЦЫ?“

У журбы спытаць каторай,
Па якой мы плацім мерцы?

Я. ЯНІШЧЫЦ.

Сёння, калі мы пачалі выходзіць на шлях бескампраміснa-праўдзівага пазнання саміх сябе, нас моцна ўдарыла па сэрцу адкрыццё, што мы не самае лепшае, не самае гуманнае грамадства ў свеце. Ці варта паўтараць, што непавага да нацыянальных святынь, да працоўнага чалавека, яго надзённых духоўных і матэрыяльных запатрабаванняў парадзіла Чарнобыль, іншыя шматлікія катастрофы, сённяшні глабальны дэфіцыт усяго і ўся, стварыла неймаверна цяжкую сітуацыю ў краіне.

Як адчувае сябе ў гэтай сітуацыі жанчына і якім паўстае яе вобраз на старонках празаічных твораў апошняга часу? Як адбілася на становішчы жанчыны, на яе статусе маці, каханай камандна-бюракратычная сістэма, нізвёўшая чалавека да бяздумнага вінціка? Што дала празмерная эмансіпацыя жанчыне, якая ў самым росквіце сваіх духоўных і фізічных сіл імкнецца стаць літаральна ва ўсім упоравень з мужчынам?

«Дынастыі, грамадствы, імперыі ператвараліся ў прах, калі ў іх пачынала рушыцца сям'я, калі ён і яна блудзілі, не знаходзячы адзін аднаго», —на такой трывожнай ноце завяршае свой «Сумны дэтэктыў» В. Астаф'еў. У ліку асноў жыцця чалавека на першым месцы ў класічнай літаратуры таксама стаіць дом з сям'ёй, потым ідуць работа, людзі, разам з якімі працуеш, зямля. Жанчына-каханая, жанчына-маці, сям'я, дзеці — адвечна-традыцыйныя тэмы мастацтва. Колькі гістарычных абагульненняў, праўдзівых карцін жыцця паўстала на старонках сучаснай беларускай прозы праз раскрыццё вобразаў жанчын, праз шматлікія любоўныя, сямейныя калізіі!

Аднак сёння многія празаікі, задумваючыся над трывожнымі фактамі распаду сям'і, зменамі ў характары і паводзінах жанчыны, адыходзяць ад спрошчанага, павярхоўнага іх вытлумачэння толькі нейкімі асабістымі якасцямі.

Мы ведаем, у якой ступені прыніжаюць і абражаюць жанчыну нашы невырашальныя сацыяльна-эканамічныя пытанні, бясконцыя чэргі, цяжкія кватэрныя ўмовы, немагчымасць паўнацэнна адпачываць, заўсёды быць добра, з густам і па модзе апранутай, што немалаважна для падтрымання яе нармальнага псіхалагічнага стану, прыўзнятага, а не прыгнечанага настрою.

Няма ў жыцці — не стала і ў літаратуры «цудоўнай дамы». Горка і смешна ўспамінаць гэты блокаўскі сімвал. На змену яму з'явіўся вобраз агрэсіўнай начальніцы-функцыянеркі, работніцы, знясіленай бясконцасцю і безвыходнасцю побыту, нявернай жонкі, маці-адзіночкі або разведзенай, пакутуючай ад немагчымасці стварыць нармальную сям'ю ў сучасных абставінах. І яшчэ горш — жанчына, якая п'е, гандлюе сабой, кідае немаўлят... І нездарма, відаць, самі назвы мастацкіх твораў апошняга часу як быццам б'юць трывогу: «Сучасны канфлікт» А. Карпюка, «Тэлеграма з Кавалевіч» М. Гіля, «Рэха даўніх надзей» А. Асіпенкі, «А маці не спіць» С. Грахоўскага, «Мелодыі забытых песень» В. Гігевіча, «Час, калі нас любілі» Т. Бондар, «Драма» І. Шамякіна...

Агульны стан маральнай атмасферы, яе паніжаны тонус накладвае на маладых свой адбітак. Многія без усялякіх дакораў сумлення адгароджваюцца ад сваіх абавязкаў, бо не выхаваны ў іх ці страчаны ў пагоні за ўяўным дабрабытам паняцці дабрыні, узаемаразумення, спагады. Усё часцей здараюцца трагедыі са старымі бацькамі, калі адны з іх паміраюць літаральна пад плотам («Карані» А. Карпюка, «Пахахуцікі» А. Кудраўца), а другія вымушаны ісці ў дом састарэлых («А маці не спіць» С. Грахоўскага). Аўтары змаглі, раскрываючы гэту балючую тэму, выклікаць моцнае пачуццё суперажывання, і, разам з тым, такое ж моцнае непрыманне паводзін дзяцей, асабліва бяздушных нявестак. Менавіта яны, маладыя жанчыны, кіруючы сямейным караблём і сваімі бязвольнымі мужамі, выкінулі, як непатрэбныя рэчы, старых бацькоў, вытрасшы з іх папярэдне і сілу, і грошы за прададзеныя вясковыя хаты. Трагедыя бацькоў яшчэ і ў тым, што ім невыносна-цяжка бачыць, як развальваюцца сем'і іх дарослых дзяцей з-за п'янства, абыякавасці, спажывецкіх настрояў, нявернасці («Рэха даўніх надзей» А. Асіпенкі, «Ноч перад нядзеляю» З. Прыгодзіча).

Але ці не маюць рацыю маладыя, папракаючы старэйшае пакаленне ў тым, што яно сваім страхам, прыстасавальніцтвам, маўчаннем, рабскай пакорлівасцю, уменнем быць смелымі апасля, наўздагон, давяло краіну да крызісу?

Па-рознаму адчуваюць і паводзяць сябе ў такой супярэчлівай, складанай атмасферы гераіні Т. Бондар. Цікава наогул прасачыць, як жанчына-пісьменніца сама ставіцца да ўсіх гэтых пытанняў, у якім арэоле бачыць сваіх сучасніц.

Адзін з герояў аповесці «Марыя», выказваючы думку аўтара, лічыць, што «жаночая праблема ў свеце вастрэйшая і важнейшая, чым праблема экалагічная». І ён, вядома ж, мае рацыю. Т. Бондар спрабуе шукаць выйсце для сваіх гераінь у традыцыйных жыццёвых сітуацыях — каханні, сям'і, марах пра любімую работу, якая б задавальняла, натхняла душу. Аднак у «Дзённіку жанчыны» (дарэчы, назва прэтэндуе на гранічную шчырасць, хоць гэтай шчырасці, адкрытасці, вялікага кахання якраз і не прыкметна). Аўтару не ўдалося паказаць натуру глыбокую, духоўна багатую, якой, па ўсім відаць, яна была задумана. Замест гэтага мы бачым залішне самазакаханую, высакамерна-патрабавальную асобу, што жыве ў нейкім звужаным коле пачуццяў, адарваных ад рэальнасці. Толькі «я», толькі зрухі ўласнай душы, супярэчлівыя імпульсы, скіраваныя на каханага, якому цяжка дзеля яе кінуць сям'ю. Нежаданне або няўменне бачыць вакол сябе людзей, аналізаваць абставіны, імкненне як бы вылузацца з абалонкі звычайнай жанчыны, якой наканаваны адвечныя, бясконцыя хатнія і сямейныя клопаты і заняцца любімай журналісцкай працай — у гэтым яе бунт і самавызначэнне. Але ж чаму яна не знаходзіць задавальнення ў гэтых сваіх памкненнях? Магчыма, таму, што з горыччу несла яна свой спрадвечны крыж, з горыччу прымала тую несправядлівасць лёсу, што нарадзілася жанчынай.

Падобны тып жанчын Т. Бондар працягвае даследаваць і ў аповесці «Час, калі нас любілі». Але тут ужо некалькі іншая якасць даследавання, больш уважлівая, цвяроза-аб'ектыўная. Галоўная гераіня Аляксандра Станіславаўна Радзінская жыве ў стане «завялікага цяжару не аддадзенай нікому пяшчоты, і любові, і змогі». Гэта яе ўнутрана-асабістае самаадчуванне. Але ж у знешніх праявах — адкуль у маладой жанчыны, паважанага юрыста, суддзі — столькі жорсткасці, самаўпэўненасці, што за імі не відаць ні любові, ні пяшчоты, ні звычайнай чалавечнасці?

Аўтар імкнецца высветліць, зразумець, што высушыла яе душу. Горад? Кар'ера? Няўдалае каханне? Адзінота? Адсутнасць цеплыні, узаемаразумення паміж роднымі? «Згадкі... Дні, што даўно належаць мінуламу... Спрабую ісці назад па сваіх жа слядах, і разумею: марныя спробы, гэта спапялёныя сляды... Адмовіцца ад мінулага, на жаль, нельга — я ж чую яго звярынае дыханне за спіной, але жыць, увесь час азіраючыся... Не, не! Не хачу. Не буду. Няхай сабе гэта толькі страх, ранейшы, заўсёдны страх, што мінулае, урэшце, не адступіцца — загоніць, зможа загнаць мяне назад, у свет хлусні, у свет, задушаны злосцю, злосным неразуменнем дабрыні, той свет, які даўно нагадвае могілкі. Ды чаго там нагадвае? Ён і ёсць могілкі, на якіх ужо не раз і не двойчы зялёнай пенай перакіпала трава. Над бацькам. І над бабуляй. І над маткай... Упершыню так балюча адчуваю тугу ў крыві. Быццам на мне сыходзіцца і закончыцца род Радзінскіх, на мне, на жанчыне...» І гэты непамерны цяжар мінулага, разбураныя сем'і, страта веры ў дабро прымушаюць жанчыну быць жалезнай, бескампраміснай, спадзявацца толькі на сябе.

Ставячы такія балючыя пытанні, Т. Бондар сумяшчае праз думкі, перажыванні сваёй гераіні мінулае і сённяшняе, спрабуе раскрыць супярэчлівую, неадназначную асобу, паказаць, як увесь час душыць яна ў сабе тое, што ўласціва жаночай натуры ад веку. Аднак і тут зноў жа паўстае пытанне: а ці шчаслівая жанчына ў гэтай сваёй бескампраміснасці, самаўпэўненасці, за якімі шукае яна ратунку ад жорсткасці, бязлітаснасці, абыякавасці свету і людзей? Аўтар пакідае ўсё ж ёй нейкі прамень надзеі на чалавечае шчасце, якое можа адбыцца, калі грамадства зразумее і верне жанчыне неацэненае высокае яе прадвызначэнне.

Аднак, у чым яно? Для нашай сучасніцы наўрад ці стане ўзорам класічны прыклад Наташы Растовай, не здолее яна абмежаваць сваё жыццё толькі сямейнымі клопатамі, хоць самой прыродай ёй першнаперш дадзена быць прадаўжальніцай роду чалавечага. І не толькі таму, што гэта звужае кола яе інтарэсаў, не дае магчымасці рэалізаваць разумовыя, творчыя, гаспадарскія здольнасці на карысць грамадству, але і таму, што мужчына, муж адзін проста не ў стане пракарміць сям'ю, забяспечыць яе ўсім неабходным. З другога боку ўмовы нашага побыту ніяк пакуль што не спрыяюць гарманічнаму спалучэнню грамадскай дзейнасці жанчыны і яе ўменню натуральна, без надрыву везці сямейны воз. Невыпадкова, відаць, такое прыкметнае размежаванне ў поглядах пісьменнікаў на жанчыну, яе ролю ў грамадстве. Многіх прыцягвае лёс жанчын-асветніц, творцаў, моцных асоб («Прадслава» В. Іпатавай, «Крыж міласэрнасці» В. Коўтун). Калі паглядзець шырэй, то ніхто так дакладна, як В. Быкаў у «Знаку бяды», не вызначыў асноўныя якасці нацыянальнага жаночага характару, выпрабоўваючы яго ў экстрэмальных сітуацыях калектывізацыі, вайны. Амаль ва ўсім Сцепаніда Багацька стаіць упоравень з мужчынам, а ў некаторых момантах — па сіле духу, сацыяльнай актыўнасці, рашучасці, разуменню сутнасці падзей, смеласці — пераўзыходзіць свайго мужа Петрака.

І ўсё ж большасць пісьменнікаў бачыць жанчыну ў яе традыцыйным прадвызначэнні, што асабліва прыкметна сёння. Мы ўжо прывыклі да шамякінскай мадонны ў шчаслівым коле сям'і, бо там, дзе пісьменнік адыходзіць ад гэтага статуса сваіх гераінь, нічога, акрамя драмы, з'явіцца не можа. («Тайна драмы», «Драма»).

Калі Аляксандру Станіславаўну Радзінскую ў аповесці Т. Бондар жыццё прымушала хаваць цнатлівую жаночую існасць, выпрацоўваць моцныя, валявыя рысы характару, то Ала Уладзіславаўна Наліцкая — галоўная гераіня «Драмы» І. Шамякіна — свядома паставіла сабе за мэту зрабіць партыйную кар'еру, лічыла, што «не на кухні і не ў пялёнках яе прызванне. Падабаецца многім няньчыцца з дзецьмі — няхай нараджаюць дзяцей. А яна будзе аддаваць сябе працы дзеля таго, каб дзецям гэтым шчасліва жылося ў камунізме. Кожнаму сваё». Якое жыццё створана дзецям у камунізме эпохі Чарнобыля, мы добра ведаем, — і не без удзелу такіх кіраўнікоў. Аўтару важна, аднак, падкрэсліць іншае: трагедыю жанчыны, якая апынулася не на сваім месцы. Яна і сама недзе падсвядома разумела, што «само жыццё, уся практыка роду чалавечага, сама прырода даводзіць, што сэнс толькі ў тых законах, па якіх жыве большаець людзей — дзевяноста дзевяць працэнтаў іх. У якую ж мізэрную меншасць яна залічыла сябе. І пры гэтым прэтэндуе на ролю кіраўніка, знаўцы, дарадцы, суддзі ўсіх чалавечых адносін, наладчыка гэтай самай складанай машыны — жыццё». Але ж у тым, відаць, і многія беды нашы, што мы ігнаравалі, адкінулі «практыку роду чалавечага», імкнуліся будаваць жыццё, у тым ліку і адносіны да жанчыны, па закліку: «мы наш, мы новы»..., і тым марудней ідзе вяртанне да саміх сябе.

Драматызмам лёсу Наліцкай І. Шамякін сцвярджае, што жанчына не можа адбыцца і як жанчына і як кіраўнік, творца.

## Віншуем!

# У ЗГОДЗЕ З МАЛАДОСЦЮ

### Міколу АЎРАМЧЫКУ — 70



Не так і даўно, перачытваючы двухтомнік выбраных твораў паэзіі Міколы Аўрамчыка, спыніўся і задумаўся над радкамі:

**Радасна, што ты чалавек,**
**Што жывеш ты пад родным небам!**

Ну, былі б яны напісаны, скажам, маім аднагодкам, пэўна, прабег бы іх раўнадушна-абыякава, як звычнае з таго, што даводзіцца чытаць штодзённа. Але за радкамі — да трагічнага няпросты лёс чалавека, яго шляхі і выпрабаванні. І я задумаўся, у якім жа стане, пры якой незвычайнай узрушанасці душы маглі яны з'явіцца? І зразумеў паэта, яшчэ да гэтага адчуўшы яго чалавечнасць і жыццялюбства, яшчэ да гэтага паверыўшы ў праўдзівасць і сілу яго паэзіі.

Дарогі паэта... Пачыналіся яны ў Плёсах, дзе будучы паэт скончыў чатырохгодку. Пасля была Цялушская сямігодка. Да гэтага часу і адносіцца першая спроба пяра. У канцы 1937 года вершы Міколы Аўрамчыка друкуюцца ў бабруйскай газеце «Камуніст», а ўжо праз год яны з'яўляюцца ў часопісе «Полымя рэвалюцыі». Верш паэта «Адлёт жураўлёў» заўважыў Якуб Колас і цёпла блаславіў юнака ў паэтычную дарогу. І, пэўна, усё склалася б добра, калі б не вайна. З батарэяй «кацюш» М. Аўрамчык трапляе на Волхаўскі фронт. Ці да вершаў было тады? Лёс чалавека трымцеў на валаску. І колькі разоў той валасок ірваўся...

Лета 1942 года. Пры акружэнні каля Мяснога бору Мікола Аўрамчык трапляе ў фашысцкі палон. На вугальнай шахце ў Руры таксама было не да вершаў. У сваёй аўтабіяграфіі пра той час паэт згадвае такое: «Кожны дзень на дасвецці з лагера да шахты канваіры пpыганялі вялікую калону палонных, абвітую гірляндай шахцёрскіх лямпаў. Нявольнікаў апускалі ў падзямелле. У лагеры лупцавалі кіямі паліцаі, па дарозе да шахты штурхалі прыкладамі канваіры, а ў падзямеллі калом білі штайгеры і іх памочнікі...»

Толькі ў красавіку 1945 года М. Аўрамчык быў вызвалены

калі яна здраджвае сваёй прыроднай сутнасці, мацярынскаму інстынкту ў імя нейкіх «вышэйшых» мэт. Такія жанчыны-кіраўнікі, на думку аўтара, перажываюць не толькі пакуты ўласнага нягздзейсненага лёсу, але, не валодаючы сваімі эмоцыямі, прыносяць бяду іншым, як гэта здарылася ў «Драме» з інжынерам Ліхачом, якога партыйная дама намеціла ў бацькі свайму ненароджанаму дзіцяці. Ала Уладзіславаўна мела ўсё ж слабасць паддацца такой спакусе — марыць пра дзіця, каханага. Яна ў думках прымервала да свайго густу і патрабаванняў то аднаго, то другога са знаёмых мужчын, аднак начыста была пазбаўлена здольнасці звіць уласнае сямейнае гняздо. Вось ужо сапраўды: «прарочыца, распусніца, вясталка — усё ў адно, каб раптам зразумець: душа, тугой працятая, як джалкам, не можа анічога адагрэць» (Р. Баравікова).

«Што ж, калі не крывіць душой, адзінота — рэч паскудная. Жанчыне не муж — дзіця патрэбна. Вось хто напоўніць яе жыццё зместам, радасцю, шчасцем. А мужыкі... Была б шыя, хамут знойдзецца». Але гэта ўжо цытата з другога твора — рамана М. Герчыка «Вяртанне да сябе». Надзіва аднадушныя тут празаікі ў разуменні месца і прызначэння жанчыны. Яны, па звыклай мужчынскай салідарнасці, не маюць ніякага жадання ўзняць жанчыну, няхай і самую лепшую, над прадстаўнікамі свайго полу. Паставіўшы ў цэнтр аповесці не часты ў сучаснай прозе (ды і ў жыцці) вобраз першага сакратара гаркома партыі, маладой, «эфектнай слуцкай шляхцянкі, бабы з галавой», І. Шамякін тым не менш адносіцца да сваёй гераіні з ледзь улоўнай, грубавата-лёгкай ironіяй, без асаблівага клопату пра дакладна-псіхалагічнае раскрыццё характару, без адчування непатрэбнасці многіх сцэн і апісанняў.

У М. Герчыка іншае. Усе жаночыя, сямейныя праблемы ён даследуе праз думкі, успрыманні журналіста Арсена Жураўскага. Чытач можа здагадацца, што нямала аўтабіяграфічнага змяшчаецца ў характары, паводзінах, наогул, стылі жыцця галоўнага героя. І ў гэтым няма нічога крамольнага. Наадварот, выклікае асаблівы давер да адлюстраванага ў творы. Усё было б прымальна, каб аўтар разам са сваім героем глыбей задумаліся над няпростым сённяшнім становішчам жанчыны. Замест гэтага мы бачым бадай штучныя пакуты Арсена Жураўскага, які заблудзіўся паміж трыма жанчынамі, што не здолелі задаволіць усіх ягоных запатрабаванняў і амбіцый. Аднак ці не таму няма шчасця ні ў Валянціны, ні ў Алачкі, ні ў Ірыны, што пераваяліся сапраўдныя рыцары-мужчыны, здрабнелі іх пачуцці, духоўны свет? Сучасная жанчына не адчувае ў іх асобе надзейнага апірышча ў гэтым трывожным, няўстойлівым свеце, ні матэрыяльнай, ні духоўнай падтрымкі, ні тым больш дапамогі ў выхаванні дзяцей. Ёсць, відаць, і шчаслівыя выключэнні, калі не ў жыцці, то ў літаратуры. Давялося пазнаёміцца з адной усё ж шчаслівай жанчынай (аповесць Н. Маеўскай «Замова»), якая знайшла шчасце ў сям'і, дзецях, мужу. «Я самая шчаслівая жанчына на свеце. І як добра, як светла і чыста, што нікога, акрамя іх, мне не трэба».

Аднак пры больш уважлівым позірку шчасце яе аказалася звычайнай ілюстрацыяй да старажытнага міфу. Сутнасць яго ў тым, што некалі Зеўс стварыў племя людзей і назваў іх андрагенамі, а потым рассек кожнага на дзве паловы —андрас (мужчына) і генас (жанчына) — і параскідаў па ўсім свеце. З тае пары адна палова шукае другую.

Дык, можа, мы, жанчыны, пачнём верыць у міфы і змірымся з цяжкасцямі жыцця па той прычыне, што яны, цяжкасці, прадвызначаны нам багамі? І, можа, таму столькі і ў жыцці і ў літаратуры няшчасных суайчынніц, што яны дрэнна шукаюць сваю палавіну? Ды па якіх прыкметах яе знайсці? Можа, па тых, што прапануе адзін з герояў І. Навуменкі, неаднойчы пацярпеўшы ад хітрых, халодных, здрадлівых жанчын: «Мужчына павінен несці ў сабе загадку, тайну, схаваную сілу, якую жанчына ловіць нутром, страшыцца і цягнецца да яе»...

Сумна і ніякавата робіцца на душы пасля знаёмства з некаторымі творамі. І не толькі ад пазіцыі аўтараў, якія амаль усе беды выводзяць з асабістых якасцей жаночага характару, з яго эгаістычнага памкнення быць наперадзе, быць моцным, незалежным і не заўважаць, як побач пакутуе слабы мужчынскі род, ходзіць у нямытых кашулях і неадпрасаваных штанах — як той бедны, недагледжаны журналіст з рамана М. Герчыка. Ці ў гэтым сёння галоўная праблема?

Трэба сказаць, што ў «Вяртанні да сябе» шмат рассыпана разважанняў пра ўзаемаадносіны жанчыны і мужчыны, бацькоў і дзяцей, сучасную сям'ю, школу, дзелавую жанчыну, «перапоўненую ненатоленай прагай камандаваць, вырашаць пытанні, лёсы, выносіць прысуды, фармуляваць канцэпцыі...» Але за мноствам гэтых разважанняў, цікавых саміх па сабе, не відно абагульняючага слова мастака, яго сапраўды пакутлівага роздуму над тым, што на самай справе адбываецца ў нашым грамадстве, жыццядзейнасць якога патрабуе гранічнага намагання жаночых сіл літаральна ва ўсіх сферах жыцця.

А паспрабуем уявіць, што было б, калі б грамадства прызнала жанчыну ў жанчыне, а не трымала яе за звычайную рабсілу? Мусіць, не было б такіх драм і трагедый, якія апісаны ў апавяданні В. Астаф'ева «Людачка», рамане Л. Габышава «Адлян, або Паветра свабоды», у аповесці «Сола на віяланчэлі» В. Гігевіча. Аднак пакуль няма новай, высокадухоўнай якасці жыцця (хоць новае мысленне і паставіла ў цэнтр перабудовы Чалавека), пра якую свабоду, духоўнае і матэрыяльнае разняволенне жанчыны можна гаварыць?

Інерцыя фізічнага і духоўнага вынішчэння працягваецца. Сёння яна ў беспакараным існаванні чыноўнай і гандлёвай мафіі (багацейшай, відаць, за нашу бедную дзяржаву), у разбэшчванні моладзі так званай паўкультурай, адкрытай прапагандай жорсткасці, сексу.

Відаць, «перадавая» ў сённяшнім баі за жыццё, годнае Чалавека, знаходзіцца на лініі адраджэння духоўнасці, той прыгажосці, якая павінна выратаваць свет. «Калі не жанчына ўратуе свет ад абесчалавечвання — больш няма каму»... (Т. Бондар, «Марыя»). Але якая жанчына, з якой душой? Не сучасныя ж наменклатурныя чыноўніцы, накшталт сакратара гаркома Наліцкай, дырэктара школы В. Жураўскай («Вяртанне да сябе» М. Герчыка) ці высокапастаўленай дамы з Міністэрства культуры Паліны Аркадзьеўны з той жа «Марыі». Тут пісьменнікі амаль аднолькава адмоўнымі фарбамі малююць сваіх гераінь. Аднак яны агульна не адмаўляюць жанчыне ў магчымасці кіраваць, займаць высокія пасады. Т. Бондар, якой, адчуваецца, больш баліць гэтае пытанне, імкнецца дайсці да каранёў, да вытокаў таго, чаму жанчына ў нашай рэчаіснасці перш чым зрабіць кар'еру, стаць партыйным або грамадскім дзеячам павінна вытручваць у сабе лепшыя жаночыя якасці. На нейкім этапе сваёй кар'еры яна цалкам пачынае падпарадкоўвацца няпісаным правілам адміністрацыйна-каманднага апарату, сіла якога ў кругавой падтрымцы, падмалёўцы жыцця, хлуслівых лозунгах і закліках, вялікіх прывілеях.

Час мяняецца, не мяняючы пакуль што нічога ў высокіх кабінетах, у словах і дзеяннях тых, хто ад імя дзяржавы, і, «дзякуючы клопатам урада ўслаўляе, уздымае працаўніцу... Але куды? На парудзелую ад дажджоў Дошку гонару? На сцэну Дома культуры ў час сходу? На трыбуну? Сышоўшы з трыбуны, яна кідаецца ў магазіны, становіцца ў чэргі, выслухоўвае лаянку стомленых, абыякавых прадаўшчыц, шчэміцца з сумкамі ў аўтобус...» («Марыя»).

Ці не той гэта выпадак, калі, вызваляючыся чыста знешне, сучасная эмансіпіраваная жанчына трапляе яшчэ ў большую кабалу, асабліва цяпер, ва ўмовах эканамічнага крызісу і ўсеагульнага дэфіцыту? І па ўсяму відаць, што жанчына выратуе свет ад бездухоўнасці, калі яе самую выратуюць, вызваляць з таго цяжкага становішча, у якім яна апынулася. Адно, бадай, найбольш хвалюе сёння пісьменнікаў, іх герояў, і нас, сучаснікаў: калі мы перастанем забіваць у жанчыне жанчыну? Калі пачнём па-сапраўднаму ўсведамляць яе ролю, суразмяраць, адпаведна прыродзе, яе сілы? Калі агульнымі намаганнямі створым умовы, каб і ў жыцці, і ў літаратуры з'явілася, нарэшце, AVE MARIA?

англічанамі. Потым дарога паэта павяла да Беластока, адтуль — на Украіну, у Данбас. Вершы «Глюкаўф», «Я знаю рай ваш залаты», «Ключы жураўліныя», «Сустрэча былых канагонаў», «Хлеб твой» і з'явіліся як вынік тых шляхоў.

Хрэстаматыйным стаўся верш М. Аўрамчыка «Беларуская сасна». Колькі ў ім эмацыянальнай сілы, сапраўднага напалу пачуцця:

**З кожнай штольні пахне**
**беларускай,**
**Баравой смалістаю сасной.**
**Над зямлёй праход нязручны,**
**вузкі**
**Выглядае просекай лясной.**
**. . . . . . . .**
**Ты з настойлівасцю вугаль**
**колеш,**
**Іскры сыплюцца з-пад**
**малатка,**
**Родная сасна пад цяжкай**
**столлю**
**Не аддасць у крыўду**
**земляка.**

І няма, здаецца, у вершах М. Аўрамчыка звышяркіх дэталей, кідкіх фарбаў, ускладнёнай метафарычнасці, а яны — кранаюць, уражваюць. Відаць, уся сіла ў тым, што грунтуюцца яны кожны раз на матэрыяле перажытага, выпакутаванага і часта трагічнага.

Сыноўняй удзячнасцю абавязаны Міколу Аўрамчыку многія з сённяшніх вядомых нашых паэтаў. Хто з былых маладых не адчуў бацькоўскай увагі М. Аўрамчыка, калі той працаваў загадчыкам аддзела паэзіі ў часопісе «Маладосць»?!

...Красавіцкім днём 1965 года ў вайсковую часць, дзе я служыў, прыйшла пошта. Трэба ведаць, з якім хваляваннем адкрываў я важкі пакет з «Маладосці». У нумары была змешчана даволі-такі ладная падборка маіх вершаў. Я і сёння ўдзячны паэту за тую радасць...

Шчыра і ашчадна працуе ў літаратуры Мікола Аўрамчык. Выйшаў у паэта двухтомнік выбранага, які склалі ягоныя творы і шматлікія пераклады вершаў з розных моў свету. Перажытае лягло ў аснову паэмы «Волхаўская споведзь». А гады пацягнулі і на прозу. Сёння Мікола Аўрамчык аўтар некалькіх раманаў пра далёкі і суровы час свайго юнацтва.

Паэт, як заўсёды, застаецца верным маладосці. Права заставацца маладым у яго заслужанае.

**Казімір КАМЕЙША.**

*Юбілеі, вечары, сустрэчы*

# У БЕЛЫМ ДОМЕ ЛЯ СІНЯЙ БУХТЫ...

**Нядаўна на будынку клуба санаторыя «Ялта» Чырванасцяжнага Чарнаморскага флоту была адкрыта мемарыяльная дошка з барэльефам Максіма Багдановіча. Тэкст паведамляе: «На этом месте находился дом, в котором жил (с марта по май 1917 г.) и умер (25 мая 1917 г.) выдающийся белорусский поэт Максим Богданович». Час і людзі не зберaглі белы дом ля сіняй бухты, у якім знайшоў свой апошні прытулак госць з далёкага Мінска. І ўсё ж трэба сказаць, што ў Ялце шануецца імя класіка беларускай літаратуры. У Місхоры, на тэрыторыі санаторыя «Беларусь», устаноўлены помнік Максіму Багдановічу работы З. Азгура. На будынку былога пансіяната «Шалаш» ёсць мемарыяльная дошка з такім тэкстам: «В этом доме в 1909 году жил белорусский поэт Максим Богданович (1891—1917 гг.). А вуліца Крымская, на якой знаходзіцца гэты гісторыка-мемарыяльны будынак, нядаўна пераназваная вуліцай Багдановіча.**

**На мітынгу, прысвечаным ушанаванню Багдановіча, першай сказала слова пашаны загадчыца аддзела культуры Ялцінскага гарвыканкома С. Ліпатава. Адкрыў мемарыяльную дошку М. Аўрамчык. Разам з дырэктарам Літаратурнага музея Максіма Багдановіча А. Бяляцкім прыехаў у Ялту адзін з аўтараў дошкі — скульптар Г. Мурамцаў. Пасля яго выступлення нампаліт санаторыя «Ялта» В. Фралоў запэўніў усіх нас, што супрацоўнікі санаторыя бяруць мемарыяльную дошку пад сваю ахову і ў бібліятэцы створаць літаратурны куток М. Багдановіча. У бібліятэку намі быў перададзены стос кніг, буклетаў. Новыя кнігі — падарунак СП БССР — папоўнілі бібліятэку санаторыя «Беларусь».**

**Адбылася гутарка з намеснікам старшыні Ялцінскага гарвыканкома, нашым земляком Уладзімірам Сцяпанавічам Доўгалевым. Дамоўлена, што напярэдадні 100-гадовага юбілею Ялта запросіць з Беларусі прадстаўнікоў літаратуры і мастацтва. Дзеля ўвекавечвання імя Багдановіча да гэтай падзеі вырашана стварыць мемарыяльны пакой беларускага паэта ў літаратурна-мастацкім музеі, які зараз знаходзіцца на рэканструкцыі.**

**Сяргей ПАНІЗНІК.**



**Споўнілася трыццаць гадоў Літаратурнаму музею Якуба Коласа. З гэтай нагоды ў Коласавым доме адбыўся святочны вечар. На ім выступілі дырэктар музея З. Камароўская, намеснік міністра культуры СССР Н. Сілкова, М. Танк, І. Шамякін, Н. Гілевіч, А. Жалязоўскі, У. Паўлаў, П. Прыходзька, прадстаўнікі музеяў і навуковых устаноў Мінска.**

**Ва ўрачыстасцях прыняў удзел фальклорны ансамбль «Купалінка».**

**Вёў вечар загадчык аддзела музея Якуба Коласа І. Курбека.**

**Тэкст і фота Т. САРЫКАЧ.**



**У Ляхавічах прайшоў рэспубліканскі семінар дырэктараў цэнтральных бібліятэчных сістэм на тэму «Бібліятэкі на шляхах перабудовы». Прысутныя заслухалі даклады загадчыцы аддзела Дзяржаўнай бібліятэкі СССР імя У. І. Леніна А. Ратнікавай («Аб канцэпцыі развіцця бібліятэчнай справы ў СССР»), галоўнага інспектара Міністэрства культуры БССР Т. Паповай («Бібліятэкі рэспублікі на шляхах перабудовы»), прынялі ўдзел у «круглым стале» па праблемах перабудовы ЦБС у сучасных умовах, пазнаёміліся з работай цэнтральнай, дзіцячай раённай і сельскіх бібліятэк Ляхавіцкай ЦБС. Адбылася таксама сустрэча з галоўным рэдактарам часопіса «Полымя» С. Законнікавым.**

Фота А. КАЛЯДЫ.

**Валянціна АКСАК**

## Сыну

Апошні калядны дзянёчак,
Ізноўку—няўсцешлівы пост.
О, як жа ты жыцьмеш, сыночак,
Не ўведаўшы прадзедаў хрост?!

Жагнацца цябе не вучылі
Ні я, ні бабулі твае,
І ўкленчыць на роднай магіле —
Не знацьмеш патрэбы тае.

Не ведаеш боскае кары
За гвалты у храме святым,
І скарбаў душы велізарных
Нясеш пустадомкам сляпым.

Апошні калядны дзянёчак,
Дзянёчак хрышчэння твайго.
Танюсенькі, сынку, шнурочак
З Вялікаднем лучыць яго.

Ты шчэ перайначышся, вер мне.
Малітву згадаеш маю,
Прасветлішся раніцай вербнай,
І ўбачыш Пагоні зямлю.

На гэтай зямлі радаводзіць
Твайё неўміручасці род,
Рагнеда ў жыццё выправодзіць,
Усяслаў бласлаўляе ў народ.

Раман між сыноў яго слынных,
Як ты, ва Уладзіміра сын,
Нясі ж наша імя няспынна
З Каляд—да ўваскрэслай вясны!

г. Наваполацк.

**Міхась КАПТУР**

## Чаму Яна Белая?

Чаму Яна Белая?
Кажуць, тут поўня свеціць зырчэй.
Чаму Яна Белая?
Кажуць, не бачыла чорных вачэй.
Чаму Яна Белая?
Кажуць, дарогі ідуць на зыход.
Чаму Яна Белая?
Кажуць, з такою душою народ.
Чаму Яна Белая?
Кажуць...
А Яна пасівела ад гора.

●

Чаму пасля смерці аднаго
Не памірае кожны?
Так немагчыма!

Чаму, калі памірае сусед,
Не знікае сусвет?
Так немагчыма!

Чаму ж пасля смерці дзіцяці
Кожны раз памірае маці?!

●

Ідалы не прыходзяць самі,
Іх ствараюць людзі.

Ідалы не знікаюць самі,
Іх звяргаюць людзі або новыя ідалы.

Калі ж зможа прыйсці народ.

г. Наваполацк.



Вячэрні Віцебск. Фота В. ДУБІНКІ.

**Віталь ГАРАНОВІЧ**

## У Дзень Перамогі

Не зведалі вочы мае жахаў лютай вайны,
Дзякуй лёсу за гэта,—
Ды ўсё ж не лягчэй дзень пры дні
Бачыць бацьку жывога ў снах,
Хату нашу ў агні,
Што далей ад дарогі зноўку
складзеным
зрубам
Зірнула на сонца,
А сяброў-аднагодкаў калісьці
вясёлых маіх,
І ўзрываў, і смерці, і новых калецтваў
бясконцых...
На акне бальзамінкі ў касках (такая
рэальнасць жыцця)
Чырванелі, як кроў, кожны раз перад
Днём Перамогі.
Збіваў пальцы, ды боль не чуў,
прыбіваючы сцяг,
Хоць дрыжэлі-трымцелі з драбінай
дзіцячыя ногі.
...У суседзяў журба—пахаваны афганец-
сынок,
Апусцела з цімураўскай зоркаю хата,
Пыл Саланга азмрочыў ды магільны
ўзлобак-куток
Наша Лепшае, Вечнае, Майскае Свята.

г. Глыбокае.

**Генадзь АСТРОЎСКІ**

## Лясная сцяжынка

Прыемны халадок і цеплыня,
У лісцях—неба сінія асколкі,
Цікуе хвойка, нібы дзіцяня,
І зайчык скача сонечны ля ёлкі.

Палянка... На спякоце млеюць пні...
Ды зноў нырае сцежка у харомы.
Вядзе мяне, халодзіць мне ступені
Сцяжынка, што з дзяцінства мне знаёма.

Задумы у лясной тут цішыні
Высокія і стройныя, як сосны.
І мары у зялёнай вышыні
З галінак там дзівосныя ткуць кросны.

Сцяжынка ўсё вядзе мяне й вядзе—
Сяброўка майго добрага настрою.
У блізкай майму сэрцу грамадзе
Мне весела, і зеляненюць мроі.

Лепельскі раён,
вёска Новыя Валосавічы.

**Алесь ШПЫРКОЎ**

## Павержаныя купалы

*СУМНЫ ЭЦЮД*

Раз'юшана, нібы Батыя раць,
Стапталі папярэднікаў нашчадкі...
Мы так прывыклі лёгка разбураць,
А потым пачынаць усё спачатку.
Нявінных столькі ссечана галоў!
І гэтыя крыжы без патрэбы.
Яны ж не ўпалі — гордыя—далоў,
А, цудам зачапіўшыся за неба,
Шукаюць намі створаных святых.
Ды іх няма. Такое ляда ў храме!
Пакінулі тут свежыя сляды
Галавацяпы, злодзеі і хамы.
Царкву драўляны купал сцеражэ,
Вартуе разламаную падлогу.
Тым рэчам, што былі падаражэй,
Ужо даўно прыставіў нехта ногі.
Між голых сцен ганяе вецер сум
І будзіць задрамаўшыя стагоддзі,
Ды апаўночы пасядзець лясун
Са світай нехрышчонаю прыходзіць.

г. Віцебск.

**Вера БАРОДЗІЧ**

●

Праклянцце людское
спасцігла тырана
І гнеўна сарвала вянок.
Як доўга вакол без віны пакараных
Было столькі фальшу, туману
нагнана
Хто праўду схаваў пад замок?
Пакуль што зацята маўчаць Курапаты:
Хто там пахаваны,
калі?
Ды ўсё ж будзе сказана,
хто вінаваты,
Бо голас свой зноў набылі.

г. Лепель.

**Генадзь БАРЫСАЎ**

## Славені

Сярод пасёлкаў,
Сяліб беларускіх
З назвай дзіўнай
Адна паланіла: Славені.

Назва — агнём апякла.
З хваляваннем, здзіўленнем
Я нараспеў паўтараў:
Славяне, Славені.

І ўсю істоту маю перапоўніла
Бязмежная радасць
Ад гэтага высока-вечнага быцця
І сугучнага ёй пачуцця.

●

І калі я зліюся з зямлёю,
З туманам, з расою,
З шэранню траў раніцой,
Калі не змагу любавацца світанкам
І шчодрым, пяшчотным быць,
Да забыцця
Даліны, лясы і пагоркі,
Рачулкі і пожні любіць,—

У гэтую стынь, у ранак
Аднойчы вярнуся —
Каб нават тады —
Скалануцца ад мякка-ласкавага
Слова,
Што ў сэрца запала навек—
Беларусь!

●

Маці журавіны вее
На двары. На вецер
Сыпне над карытам —
Як весела-святочна,
Тонка і звонка
Ягады барабаняць!..

Знаёмым прыемным дымком
Пацягнула ад лазні.

Печка з камення.
Лазню цеплі,
Каб на палку дух абпякаў,
Як мароз, дух бярозавы.
Да знямогі катуй сябе
Венікам пахкім.
Выйдзеш на волю,
Як быццам ты зноў нарадзіўся...

Мой родны край, мой родны кут.
Ды не спатрэбіўся я тут.

●

Што Лёнькаў бацька
Франтавік, кулямётчык,
З дзяцінства мы зналі.
А ордэны і медалі?
Не бачыў, не ведаю, ці былі.
Напэўна, былі.
І вось цяпер, на радаўніцу,
Згорблены,
Бачу, брыдзе па дарозе,
Кульгае, ледзь ідзе за сяло.
І неяк няёмка сказаць:
— Што, дзядзька,
Трудна табе
І цяпер і тады было?
Гляну:—Ногі,
Зусім аслаблі ногі,
Скруціла ўсяго
І сагнула ў дугу.
Генка, да Берліна дайшоў,
А цяпер
Да кладоў дайсці не магу...

●

Капаюць бульбу...
Агарод, бульбоўнік, тын,
(Дзяцінства успамін).
Сухі чарнобыль, палын.
О гэты дух—
Палын, дымок, раллял
І нашы гульні—
Хованкі сярод быльля.

Яна і я — дзіця.
І да канца,
Ужо да канца жыцця —
Не ўваскрасіць,
Не зведаць таго мне пачуцця.

г. Віцебск.

**Давід СІМАНОВІЧ**

●

Мне шмат што хочацца забыць.
і закапаць, і кол забіць.
Ды што было, не забываецца.
у памяць кол не забіваецца.
Вось я хлапчук. Крычу: «Ура!»
Я ўдзячны Сталіну за сонца,
нібы з рукі правадыра
яно прыйшло ў маё аконца.
Яго як быццам з рукава
ён выпусціў—няхай смяецца!
Як рада сонейку дзятва!
Ён чарадзеем ім здаецца.
Іскрыцца снег, і я бягу,
гарыць кvяціста
трыццаць сёмы...
Не, я забыцца не магу,
як бацьку забіралі з дому...
Глухая ноч... Гляджу праз сон—
мне жудасна, незразумела.
Куды у цемень пойдзе ён?
Заўчасна мама пасівела.
Юнацтва ступіць на парог...
О, час наіўна-бестурботны!
А Сталін—ён ужо, як бог,
бязгрэшна-правы, бессмяротны...
Я помню—з сябрам гаварыў:
«А што, як раптам нас памне?..»
Памёр. І цень зямлю накрыў,
і —
горкі плач па ўсёй краіне.
Асірацелыя палі...
Ды сонца будзе разгарацца,
і сталасць прыйдзе к нам, калі
у шмат чым зможам разабрацца.
Мы не замоўчым, што было,
і чорны дзень не замалюем.
Мы праўды зыркае святло
над намі
смела
усталюем!

1962.

●

Доўга хмурыўся лес
кучаравы,
ды нічога табе не сказаў,
калі нішчыў ты кветкі і травы
і галлё без патрэбы ламаў.
Ён цябе не прызнаў за сына,
а за госця ў бяздумнай гульбе,
і з размаху галінкай
асіны
ён ударыў
па твары
цябе.

1977.

Пераклаў з рускай У. ПАПКОВІЧ.

*Сто радкоў пасля прэм'еры*

# ЗГАДЗІЎШЫСЯ НА ЧАРНАВІК...

**«Жаніцьба Фінікава» (А што на дне студні?)» А. Сосіна. Пастаноўка Ю. Сідарава. Сцэнаграфія Я. Волкава. Музычнае афармленне В. Красоўскага. Балетмайстар Э. Піно. Рускі тэатр БССР імя М. Горкага.**

**Кожны з нас хоць аднойчы наважваўся распачаць новае жыццё — заўтра ці з панядзелка. Некаторыя так і рабілі — пачыналі, аднак жа часцей за ўсё высакародныя парыванні так і заставаліся парываннямі.**

**Відаць, не такая ўжо бяскрыўдная гэта з'ява, бо даволі-такі распаўсюдзіўся звычай — пагаварыць пра сумленне, так бы мовіць, на дэсерт, пасля тлустае ежы. Тыя, хто адчувае сябе гаспадарамі жыцця, здольнымі купіць усё, што дасюль лічылася непакупным, магчыма, у свой час таксама спадзяваліся, што, набыўшы спачатку ўсё для прыстойнага жыцця, потым усім узброеныя, будуць рабіць дабро і думаць пра вечнае...**

**І вось на сцэне Рускага тэатра БССР — Уладзімір Пятровіч Фінікаў, які, дажыўшы да трыццаці сямі гадоў, неаднойчы вызначаў свой сённяшні дзень як чарнавік заўтрашняга — высакароднага, творчага, бескампраміснага жыцця, — перад намі ж нячысты, мітуслівы побыт правінцыйнага Расціньяка, разгорнуты пастаноўшчыкам і акцёрамі А. Душачкіным, Т. Баўкалавай, А. Аксёнавай, Г. Доляй, Т. Хвосцікавай, Л. Цвятковай.**

**Не адчуваю вялікіх мастацкіх вартасцей у п'есе Сосіна. Мова яе быццам знята са стужкі магнітафона, не стаўшы, аднак, праявай тэатра. Аднак тэма, ухопленая драматургам, сапраўды з «гарачых», — тэма вычарпальнасці чалавечай асобы, яе самазнішчэння, калі жыццё неразважліва траціцца на дробязнае, мітуслівае. Але гучыць у п'есе яшчэ адзін важкі матыў: у гэтай мітусні траціцца галоўны, вышэйшы сэнс жыцця, няхай мала каму з нас вядомы, але ж тым не менш — існасны... Не так ужо рэдка мы схільныя апраўдваць сябе — і маем, вядома, рацыю. Сапраўды, адсутнасць самага неабходнага для прыстойнага жыцця прыніжае чалавечую годнасць, нізводзячы нашае адно-адзінае, непаўторнае (другога не будзе) існаванне да прымітыўнай, на ніжэйшым узроўні барацьбы... за хлеб надзённы, за жытло... Балюча, што за ўсё гэта даводзіцца расплачвацца невымерна дорага: у грамадстве выпрацоўваецца хапальны рэфлекс — мне, мне і гэта таксама мне, і наогул — усё лепшае мне. Рабскі інстынкт, які быццам дае яго ўладальніку ўяўную перавагу над другімі, быццам бы адорвае незалежнасцю, але на справе — прыніжае яго, а ў рэшце рэшт адбірае гэтую незалежнасць, пераўтвараючы яго ў раба ўласных апетытаў і ўсіх тых, ад каго залежыць іх наталенне... І заві гэта як хочаш, нават прыгожа, па-навуковаму — «прагматызм»...**

**Дык што ж застаецца на дне студні?.. Адны здольныя ўбачыць у ёй дзённыя зоркі, але здольнасць гэтая дарагая, жыццём аплачаная, яна для тых, хто ведае: апроч зямлі, ёсць яшчэ і неба; другія — твань, бруд, смецце... Што нарабілі вакол сябе, тое і ўбачылі.**

**Але вернемся да «Жаніцьбы Фінікава», хоць мы ад яе і не аддаляліся. Нельга, зразумела, дакараць твор мастацтва за тое, чаго ў ім няма, але тады — навошта брацца менавіта за гэтую п'есу? Няўжо пабуджальныя матывы былі такія простыя: зручны расклад роляў, добры матэрыял для актрыс і акцёра (дарэчы, усе выканаўцы працуюць на добрым прафесійным узроўні), зручная «паралель», ну, і, наогул, спектакль «Амаральная гісторыя» ўжо адпрацаваў сваё, яму патрэбна замена. Такі вось каштарыс?!**

**Сапраўды, «Амаральная гісторыя» сумленна адпрацавала свой тэрмін, скарыстаўшы ўвесь прэйскурант апрабаваных прыёмаў і вычарпаўшы рэсурсы глядацкага даверу да твораў такога рангу. Ну, і добра, і хопіць... З якой нагоды пачынаць закручваць усё спачатку (нават з танцамі ў выкананні таго ж самага артыста)? Ці хутка надыдзе той панядзелак, з якога пачнецца ў тэатры сапраўды новае жыццё? Ці зноў будзем пагаджацца на чарнавік?**

**Л. БРАНДАБОЎСКАЯ.**

# Класіка гарантуе

**«Прынцэса цыркі» ў Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі БССР**

Ахвотна ходзіць публіка на класічную аперэту — як у госці да добрага знаёмца. І не таму, што ўспрымае класічную назву як гарантыю ад неспадзевак у самім відовішчы. (Вядома ж, і класіка воляю пастаноўшчыкаў можа падацца зусім не традыцыйнаю, неспадзяванай, а то і неўразумелай). Класічная назва для публікі — гарантыя таго, што, які б ні атрымаўся спектакль, абавязкова пачуеш у ім знаёмую ўсяму свету музыку. Нават пры самым рэвалюцыйным — «з нажніцамі» — прачытанні аўтарскай партытуры і лібрэта пастаноўшчыкамі.

Вось і прэм'ера «Прынцэсы цырка» гарантавала гледачу магчымасць паслухаць вядомую ды любімую музыку. Да таго ж, на сцэне тэатра музкамедыі «рэвалюцыйных нечаканасцей» гэтым разам не было: аперэту І. Кальмана ставіў С. Штэйн, рэжысёр, які з амаль Гіпакратавай ашчадлівасцю ды асцярожнасцю падыходзіць да арганізму ўсялякага твора,— «не нашкодзь!» І то праўда: небяспечна частаваць навацыямі гледачоў, для якіх памятнымі ўражаннямі зрабіліся або калісьці папулярны фільм «Містэр Ікс» з непаўторным Георгам Отсам, або пазнейшая тэлеверсія «Прынцэсы цырка». Таму ці не лепш будзе — прапанаваць спешчанаму густу прыхільнікаў аперэтачнай класікі немудрагелістую, але мудрую канцэпцыю, знайсці штосьці накшталт Саламонава рашэння?

Думаю, дзякуючы менавіта гэткаму рашэнню пастаноўшчыкаў і прыняла публіка новы спектакль. У ім на пярэстым, паліфанічным фоне (тут і меладраматычная інтрыга, і набор дзяжурных жарцікаў, і неўтаймоўнае полымя кахання) ненадакучліва саліруе вечная тэма чалавечай годнасці. А музыка (як і мае быць у аперэце) — на сваім, на падкрэслена пачэсным месцы.

Ледзь толькі прагучыць уверцюра, нагадаўшы знакаміты матыў арыі Містэра Ікс, і расхінецца заслона — першае, што заўважыш на сцэне... музыка. (Музычны кіраўнік пастаноўкі А. Сасноўскі, дырыжор С. Бурак). Дырэктар цырка Рэнар (артыст К. Лосеў) дырыжыруе аркестрам. Па левую руку ў яго драўляныя духавыя, па правую — медзь. Яркі, урачысты цыркавы марш! Адыграўшы першы куплет, музыканты, не перапыняючы сваю справу, бадзёра крочаць у партэр...

Чытачы, якія хоць калі зведалі на сабе ўзрушальную блізкасць духавой музыкі (а такіх людзей, я ўпэўнена, большасць), могуць сабе ўявіць стан публікі — «абкальцаванай» меднагалосым фортэ і да ўсяго асленленай блуклівым промнем пражэктара, скіраваным у цёмную залу. Ілюзія цыркавога амфітэатра! Толькі потым вока заўважае: нешта ж ёсць і на сцэне.

А на сцэне — відарыс Эйфелевай вежы і вулічнай рэкламы (мастак З. Марголін). І — свая публіка: цыркавыя жанглёры; кавалеры ў цывільных строях і вайсковых мундзірах, сухарлявыя і пузаценькія — спадарожнікі і паклоннікі свецкай зоркі Тэадоры Вердзье (Н. Гайда). І мужчынскі хор гучыць і выглядае, дарэчы, досыць няблага, як увогуле хор у гэтым спектаклі (хормайстры Н. Андросава, Л. Барысенка).

Як і мае быць у трохактовым спектаклі, паступова і падрабязна пакажа тэатр усіх персанажаў гэтай шматнаселенай аперэты, разгорне ланцужок стасункаў і падзей.

Прыхільнікі Н. Гайды будуць захоплена вітаць кожны яе выхад. (Не магу не зазначыць, што сваю долю ў глядацкі поспех артысткі, нібыта гожая аправа ў хараство дыямента, дадаюць фантазія і густ мастака па касцюмах В. Жалонкінай).

Павесяляць вока яркія фігуркі цыркачоў, чые ўборы нагадваюць ці то папяровыя кітайскія ліхтарыкі, ці то казачна-экзатычных птушак, матылёў. Ды вось шкада: бракуе выканаўцам, артыстам балета (балетмайстар В. Бутрымовіч) адпаведных тэмпу, рытму, «рызыковай», эксцэнтрычнай, акрабатычнай пластычнасці. На жаль, і разлічаны на асаблівы эфект ілюзіён з фасфарычнымі фарбамі, адцененымі цемраю сцэны, з лятучым «жоўтым шалікам» і гэткім жа жоўтым штучным чалавечкам (пра сябе пахрысціла яго «лялька Чынгісхан») і да т. п. — гэты ілюзіён прыцягвае ўвагу мо на якую хвіліну, а далей успрымаецца рыхтык нуднаваты ўстаўны нумар.

Штрыхі камедыйнасці, зразумела, уласцівай кальманаўскаму твору, прынясуць з сабою закаханыя Мары (Л. Кудзелка) і Тоні (Г. Нікіцін), «мяшанец тыгра і грымучае змяі» Караліна (А. Крайнікава) і пакорлівы метрдатэль рэстарана «Зялёны папугай» Пелікан (А. Ранцанц), барон дэ Крэвельяк з яго арыстакратычнымі прэтэнзіямі і подлымі задумамі (Г. Казлоў), мітуслівы-шэранькі баронаў сакратар (У. Сердзюкоў).

Эфектна, «зрываючы апладысменты», з'явіцца перад публікай кароль манежа Містэр Ікс (Р. Харык): адкрыецца шырокая лесвіца ў глыбіні сцэны, пакрочыць па ёй чалавек у фраку з накідкай накшталт кажановых крылаў, у белым цыліндры, пад чорнаю паўмаскай. Выйдзе і праспявае сваю коронную арыю, не па-аперэтачнаму сур'ёзны, драматычны маналог таго, чый лёс — хаваць сваё «я» пад маскай блазна, а добрае імя — пад безаблічным знакам «ікс».

Будзе некалькі ўдалых ансамбляў (скажам, другі дуэт Тэадоры і Містэра Ікс на баронавым балі; сцэна «выкрыцця» Містэра Ікс; дуэт Караліны і Пелікана і працяг дзеі, калі да іх далучаюцца маладыя Мары і Тоні).

І пры ўсіх акалічнасцях застанецца на першых ролях музыка, класіка, якая ніколі не расчаруе сваіх прыхільнікаў. Аперэта ж саткана з яе. А яшчэ — рэфрэнам зробіцца цыркавы марш, неаднойчы прашпацыруюць праз партэр музыканты-духавікі, а іх спадарожнік пражэктар будзе бязлітасна сляпіць вочы гледачоў, каб толькі не пабачылі, што ў гэтыя хвіліны на сцэне ідзе перастаноўка.

Звычайная «чыстая перамена», як вядома,— гэта калі дзеля перастаноўкі дэкарацый пры адкрытай заслоне на сцэне і ў зале тушаць святло. На гэтым жа спектаклі «чыстая пераме-

# ПЛЁН СУСТРЭЧ НАШЫХ...

**Гутарка з дырыжорам В. ПАЛЯНСКІМ**



Ці магчыма «любоў з першага позірку» паміж аркестравым калектывам і кіраўніком хору?

Мяркуючы па добрым кантакце, які ўжо чатыры гады існуе паміж Дзяржаўным камерным аркестрам БССР і дырыжорам Дзяржаўнага камернага хору Міністэрства культуры СССР Валерыем Палянскім, такое бывае. Як артысту аркестра мне даводзілася неаднойчы сустракацца з ім у працэсе творчасці. І ў рэшце рэшт, мы дамовіліся на інтэрв'ю для «ЛіМа».

**— Валерый Кузьміч, калі вы вырашылі, што Дзяржаўны камерны аркестр БССР — гэта менавіта той калектыў, з якім хацелі б супрацоўнічаць?**

— Час мінае хутка, і здаецца, што было тое нядаўна. У адзін з першых прыездаў нашага хору ў Мінск мы спявалі месу В. Моцарта супольна з Мінскім камерным аркестрам — так ён тады яшчэ называўся. Дата таго канцэрта, што адбыўся ў зале філармоніі, — 29 студзеня 1985 года, пункт адліку, з якога пачынаецца наша садружнасць. Другім разам мы спаткаліся таксама ў Мінску пад час выканання Чацвёртай сімфоніі А. Шнітке 23 лістапада 1987 года.

**— Усё, як у сапраўдным рамане: першая сустрэча, першае ўражанне, нерашучасць, роздум, ваганні, і другая сустрэча. І вось нарадзілася «сумеснае дзіця»...**

— Так, менавіта пад час працы над сімфоніяй А. Шнітке я прапанаваў вашаму аркестру ўзяць удзел у Першым фестывалі старадаўняй і сучаснай камернай музыкі ў Полацку. Фестываль, як вядома, адбыўся ў канцы красавіка 1988 года.

**— Штотыднёвік «Літаратура і мастацтва» падрабязна пісаў і пра першы, і пра другі фестывалі. І чытачы, мабыць, не забыліся, што вы, Валерый Кузьміч, — адзін з ініцыятараў і арганізатараў фестывалю. Таму, калі ласка, — некалькі слоў аб праграме наступнага, трэцяга свята камернай музыкі ў Полацку.**

— Ёсць задумка наладзіць фестываль 1990 года сіламі нашых двух калектываў — Дзяржаўнага камернага аркестра БССР і хору Міністэрства культуры СССР, запрасіць некалькі салістаў і прысвяціць яго месам Ф. Шуберта, В. Моцарта, А. Вівальдзі, Д. Пергалезі і іншых кампазітараў. Плюс, канечне, нашы сольныя канцэрты. Гэта ў агульных рысах, пра дэталі пагаворым з Таццянай Давыдаўнай Рудавай, дырэктарам Полацкага гісторыка-археалагічнага запаведніка, бліжэй к вясне.

**— Аднак, Валерый Кузьміч, вернемся да нашага «рамана». Мінулы год аказаўся найбольш плённым у нашых кантактах. Давайце сёе-тое ўспомнім.**

— Пачнём адразу са студзеня. Тады камерны аркестр БССР пад маім кіраўніцтвам запісаў у зале Полацкага Сафійскага сабора тры пласцінкі. Запіс рабіла фірма «Мелодия», працаваў яе лепшы гукарэжысёр І. Вепрынцаў. Што ў праграме? Першая пласцінка: тры дывертысменты В. Моцарта; другая: «Серэнада для струннага аркестра» П. Чайкоўскага і Варыяцыі А. Арэнскага на тэму П. Чайкоўскага; трэцяя: пяць канцэртаў для фагота з аркестрам А. Вівальдзі (саліст В. Папоў). Прадчуваю пытанне: чым жа імпануе мне ваш аркестр? Скажу, што менавіта на запісе ён паказаў тыя якасці, якія я асабліва цаню: мабільнасць, высокую культуру валодання інструментамі, прафесійнае стаўленне да сваёй справы — на запісе ж вельмі складана кожны дубль выдаваць па вышэйшым разрадзе, патрабуецца гранічная пільнасць усіх музыкантаў.

Дык вось. Наступная наша сустрэча адбылася ў Маскве ў Калоннай зале Дома Саюзаў 30 сакавіка: гучала «Меса» Ф. Шуберта. 6 красавіка ў Мінску мы сустрэліся на аўтарскім канцэрце А. Шнітке, і, нарэшце, у канцы красавіка — другі фестываль у Полацку.

**— Акурат пад час яго вам споўнілася сорак гадоў, і гаспадары фестывалю падарылі вам дзівосны падсвечнік у форме ліры, а артысты хору склалі букет з некалькіх дзесяткаў пунсовых руж — кожны па кветачцы... Ну, а якія ж нашы супольныя планы на будучыню?**

— Не будзем зазіраць далёка наперад, але мне хацелася б распачаць у Мінску з камерным аркестрам цыкл «Усе сімфоніі Моцарта». Колькі зойме гэта часу, я не ведаю, ды думка такая ёсць. Далей — выканаць абанемент пад агульнай назвай «Меса», г. зн. паўтарыць для мінчан тое, што на-

На рабочым стале Віталя Вольскага застаўся незавершаны рукапіс. На першай старонцы яго значыцца: «На зломах эпохі» (кніга ўспамінаў). Пісьменнік паспеў расказаць пра сваё маленства, пра рэвалюцыйныя падзеі ў Петраградзе, непасрэдным сведкам якіх ён быў, пра ўдзел у абароне «калыскі рэвалюцыі» ад войск Юдзеніча, пра паход на Варшаву, пра барацьбу з белымі бандамі на тэрыторыі Беларусі, пра сваю службу ў органах дзяржаўнай бяспекі. Аўтар адышоў ад нас, калі працаваў над раздзелам пра перыяд сталінскіх рэпрэсій. Фрагменты менавіта з гэтага раздзела бацькавага рукапісу прапаную чытачам штотыднёвіка. Хацеў бы дадаць, што апошнім часам на старонках некаторых выданняў імя Віталя Вольскага памінаецца ў купе з імёнамі тых, хто меў дачыненне да рэпрэсій 30-х гадоў. Хай старонкі ўспамінаў пральюць трохі святла на той складаны і супярэчлівы час.

Артур ВОЛЬСКІ.

*Нашы публікацыі*

Віталь ВОЛЬСКІ

# НА ЗЛОМАХ ЭПОХІ

У маі 1926 года мяне выклікаў да сябе начальнік сакрэтна-палітычнага аддзела Рэмізаў.

— Сёння ўначы,— павольна прамовіў Іван Дзмітрыевіч,— дастаўлены з Полацка арыштаваны там Пчолка. Паводле папярэдніх, яшчэ не праверaных звестак ён стары манархіст, вялікадзяржаўнік. Магчыма, удзельнік якой-небудзь контррэвалюцыйнай групы. Трэба праверыць. Я мяркую даручыць справу Пчолкі вам...

На працягу некалькіх дзён я дбайна вывучаў матэрыялы агентурнай распрацоўкі, вынікі знешняга і ўнутранага назірання, пратакол папярэдняга допыту Пчолкі, праведзенага ў Полацкім акруговым аддзяленні. Дакладна азнаёміўся з яго біяграфіяй. Некалькі разоў гутарыў з арыштаваным. Гаварыў па тэлефоне з Полацкам.

Высветлілася, што Пчолка — юрыст па адукацыі і пісьменнік. У дарэвалюцыйны час выдаў у Віцебску два зборнікі гумарыстычных апавяданняў з жыцця і побыту сялян Полаччыны. Нічога палітычна шкоднага ў яго кніжках я не знайшоў. І ў асобе яго не было ніякіх загадак. Працаваў раней народным суддзёй. Цяпер не працуе па старасці. Выступае часам у клубах як кіраўнік і ўдзельнік сямейнага музычнага аркестра, які складаецца з яго дзяцей. Чытае на клубнай сцэне свае апавяданні. Да Савецкай ўлады лаяльны. Жыве інтарэсамі сваёй вялікай сям'і.

Падстаў да зняволення Пчолкі і прыцягнення яго да крымінальнай адказнасці не было. І я вырашыў, што трэба Пчолку вызваліць, а справу скасаваць. Сваю пастанову з такім прыблізна зместам праз адпаведны час паклаў на стол перад Рэмізавым. Іван Дзмітрыевіч прачытаў яе і не запярэчыў. Пасля некалькіх пытанняў, на якія я адказаў, ён узяў пяро і моўчкі падпісаў рэзалюцыю аб вызваленні Пчолкі і скасаванні справы. Пасля невялікай паўзы адкінуўся ў крэсле і, не гледзячы на мяне, сказаў:

— Шкада. Усё ж шкада! Ёсць думка ў высокіх інстанцыях, што пасля працэсу Лістапада працэс вялікадзяржаўнікаў быў бы вельмі дарэчы. Зразумела, калі матэрыялы яго будуць цалкам адпавядаць палітычным патрабаванням часу. Пчолка ж, сапраўды, як быццам не падыходзіць для таго, каб стаць цэнтральнай фігурай такога працэсу. Што ж, трэба працягваць пошукі. Трэба шукаць і знайсці. За такі працэс вы маглі б атрымаць высокую ўрадавую ўзнагароду. Мне так здаецца.

На гэта я нічога не адказаў, але для сябе адпаведныя вывады зрабіў...

Эпізод з арыштам Пчолкі з'явіўся для мяне яшчэ адным сур'ёзным доказам таго, што трэба як хутчэй кінуць працу ў органах дзяржаўнай бяспекі. Былі падставы меркаваць, што ДПУ можа неўзабаве ператварыцца ў нешта накшталт старой царскай «охранки» ці нават у нешта горшае.

Шмат чаго яшчэ я не ведаў, але ўжо разумеў інтуітыўна, што намеры свае трэба мне ажыццявіць неадкладна. Усе свае намаганні я скіраваў на тое, каб вызваліцца ад службы ў ДПУ. Неўзабаве мне гэта ўдалося. Я атрымаў ад свайго непасрэднага начальніка папярэднюю згоду і пастанову Сакратарыята ЦК КПБ быў прызначаны на пасаду старшага інспектара ў Галоўным камітэце па кантролі за рэпертуарам (Галоўрэпертком), які ўваходзіў у сістэму Наркамата асветы. Спачатку, праўда, загадчык аддзела кадраў ЦК Кавалёў спрабаваў мяне ўгаварыць, каб я згадзіўся працаваць у Наркамаце юстыцыі следчым па асабліва важных справах, але я катэгарычна адмовіўся.

— Вы правільна робіце,— сказаў мне Рэмізаў на развітанне. — Думаю, што вам цяпер сапраўды лепш працаваць у галіне культуры. Вам гэта бліжэй па натуры. Жадаю поспеху!..

●

На пачатку кастрычніка 1935 года, калі я вярнуўся з паездкі ў Грузію, здарылася такое, што не паддавалася ніякаму асэнсаванню. Мяне выклікаў да сябе трэці сакратар ЦК КПБ Рыскін, які займаўся пытаннямі культуры. Адначасова ён быў па традыцыі і першым сакратаром Мінскага гаркома.

Не адказаўшы на маё прывітанне, Рыскін коратка спытаў:

— У вас працуе ў інстытуце нейкі Юргялевіч?

— Працуе.

— Хто ён такі?

— Старшы навуковы супрацоўнік.

— Член партыі?

— Так.

— Што вы можаце сказаць пра яго?

— Працуе добрасумленна. Нядаўна здаў у друк першую частку напісанай ім «Навуковай граматыкі беларускай мовы».

На твары сакратара з'явіўся выраз незадаволенасці.

— А як ён паводзіць сябе як член партыі?

— Нічога адмоўнага сказаць не магу.

— А ці ведаеце вы, што Юргялевіч — літоўскі шпіён?

Пытанне, зададзенае Рыскіным рэзка і жорстка, было для мяне больш як нечаканае.

— Гэта мне невядома,— адказаў я пасля даволі працяглага маўчання.

— А дзе ваша пільнасць? — наступаў Рыскін, спрабуючы выкарыстаць маю разгубленасць. — Нам патрэбна яго характарыстыка. Навуковая і палітычная. З улікам таго, што я вам сказаў. Напісаць яе павінны вы. Як дырэктар і парторг інстытута. Гэта ваш партыйны абавязак!

— Я магу напісаць на Юргялевіча толькі дадатную характарыстыку.

— Кіньце спрачацца. Не раю! — перапыніў мяне Рыскін. — Калі вы не пазней як праз тры дні не пакладзяце мне на стол характарыстыку на Юргялевіча, будзе вам кепска. І ўлічыце, характарыстыка патрэбна толькі адмоўная!..

Я выйшаў на вуліцу. Аддыхаўся, як пасля непасільнай працы, і задумаўся. Што рабіць? Адно было мне ясна: адмоўную характарыстыку на Юргялевіча не напішу. Сеў на лаўку ў скверы з фантанам насупраць будынка ЦК. Ліхаманкава пачаў абдумваць сітуацыю. У маім распараджэнні тры дні. За гэты час трэба зрабіць усё магчымае. Абдумаўшы розныя варыянты, вырашыў: трэба знікнуць, з'ехаць куды-небудзь. І як хутчэй! У той жа дзень я атрымаў у лечкамісіі пуцёўку ў Сочы і аформіў у Акадэміі навук водпуск.

Наступнай раніцай я сядзеў ужо ў вагоне поезда, які імчаў мяне на поўдзень, усё далей ад усіх засмучэнняў, непрыемнасцей, пагроз і небяспек...

Няцяжка ўявіць, як «адпачывалася» мне на поўдні. Чым менej заставалася да канца водпуску, тым неспакойней рабілася на сэрцы. Неўзабаве на маё імя прыйшла тэлеграма за подпісам парторга Акадэміі навук Лушчыцкага, у якой паведамлялася, што я павінен тэрмінова вярнуцца ў Мінск.

У Мінску, як я і меркаваў, мяне чакалі новыя выпрабаванні.

У кабінеце Лушчыцкага сядзела яшчэ некалькі чалавек. Выгляд ва ўсіх быў непрыступны, змрочны.

— Разглядаецца справа члена партыі, дырэктара Інстытута літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР Вольскага Віталія Фрыдрыхавіча,— абвясціў Лушчыцкі. — Ён абвінавачваецца ў тым, што ўхіляўся ад актыўнага ўдзелу ў барацьбе з класава варожымі элементамі, у тым, што друкаваўся ў контррэвалюцыйных выданнях і ўкрываў ворагаў народа. Ёсць думка выключыць яго з партыі.

Я папрасіў слова. Лушчыцкі захваляваўся, павысіў голас:

— Мы не маем патрэбы вас выслухоўваць! Стаўлю прапанову на галасаванне...

Першыя дні пасля выключэння з партыі я саромеўся выходзіць на вуліцу. Здавалася, кожны глядзіць на мяне з дакорам і знявагай. Але паступова пачаў разумець, што многія не толькі не асуджаюць, але спачуваюць мне.

Неяк, ідучы па Савецкай вуліцы, сустрэўся з начальнікам сакрэтна-палітычнага аддзела ДПУ рэспублікі Міхаілам Паўлавічам Чарнышовым, маім сябрам і таварышам па ранейшай службе ў органах дзяржбяспекі. Сапраўднае прозвішча яго было Малініч. Ён даводзіўся дваюрадным братам вядомаму акцёру Уладзіміру Крыловічу. На пасаду начальніка аддзела быў прызначаны ў пачатку трыццатых гадоў замест Рэмізава, якога перавялі ў Маскву.

Мне кінулася ў вочы, што выгляд у Мішы быў невясёлы. Раптам, нібы між іншым, ён сказаў:

— А ці ведаеш ты, што жывеш з мае ласкі?

— Як гэта разумець? здзівіўся я.

— А вельмі проста,— адказаў Міша,— некалькі разоў ужо выкрэсліваў тваё прозвішча са спісаў на рэпрэсіі.

Я здзівіўся яшчэ больш, хоць і бачыў, што ён не жартуе.

— За што ж мяне рэпрэсіраваць? Я ж не рабіў і не раблю нічога благога...

— А гэта не мае ніякага значэння. Галоўнае, каб быў чалавек, а справа на яго заўсёды знойдзецца. Цяпер ведаеш як? Сёння ты пісьменнік, вучоны, а заўтра — тры залатнікі, і няма ні пісьменніка, ні вучонага. Быццам і не было яго ніколі.

Ён сумна, нібы неахвотна, усміхнуўся і раптам заспяшаўся.

Толькі калі высокая Мішава постаць знікла, дайшоў да мяне сапраўдны сэнс таго, што ён сказаў. Тры залатнікі. Гэта ж вага рэвальвернай кулі!.. Да гэтага часу не магу сабе дараваць, што паставіўся спачатку да сказанага даўнім сябрам неяк бесклапотна, без належнай сур'ёзнасці. Нават і не падзякаваў яму.

Больш я ніколі Чарнышова не бачыў. Ведаю толькі, што неўзабаве ён быў прызначаны начальнікам пагранічных войск Далёкага Усходу і выехаў з сям'ёю ў Хабараўск. Жонка яго, Поля, зайшла да нас развітацца перад ад'ездам. Потым дайшлі да мяне звесткі, што ў 1937 годзе Міша быў расстраляны. Загінула і яго жонка. Дзе падзеўся іх хлопчык Віля, аднагодак і прыяцель майго Артура, невядома...

У канцы 1958 ці ў пачатку 1959, не памятаю дакладна, у калідоры выдавецтва «Асвета» я выпадкова сустрэўся з Юргялевічам. Ён першы падышоў да мяне, павітаўся і адразу пачаў прасіць прабачэння.

— Даруйце,— кажа,— калі ласка. Я ведаю, што праз мяне вы мелі сур'ёзныя непрыемнасці. Але я не вінаваты...

І ён расказаў мне пра свой лёс, пра свае нягоды.

— Арыштавалі мяне,— гаварыў Юргялевіч,— на пачатку кастрычніка трыццаць пятага. Прымушалі прызнацца, што я — літоўскі шпіён. Некалі ж, у час адступлення з-пад Варшавы, наша дывізія была інтэрніравана ў Літве. Следчыя прымушалі, каб я сам прыдумаў, як і якім шпіянажам займаўся, якія звесткі збіраў і каму перадаваў. Неўзабаве перавялі ў Магілёўскую турму. Там напачатку таксама білі, але потым пакінулі ў спакоі. За некалькі дзён да таго, як гітлераўцы ўварваліся ў Магілёў, ахова пакінула турму. Уцякла. Некаторыя камеры аказаліся незамкнёныя. Вязні гэтых камер адшукалі ключы ад астатніх, і ўсе мы апынуліся на волі. Кінуліся хто куды...

Юргялевіч падаўся ў партызаны. Пасля вызвалення Беларусі пайшоў разам з іншымі партызанамі ў Чырвоную Армію. Атрымаў некалькі ўрадавых узнагарод. Дэмабілізаваўшыся, вярнуўся ў Магілёў і працаваў выкладчыкам у педагагічным інстытуце. Быў рэабілітаваны і аднаўлены ў партыі.

— А вы? — спытаў Юргялевіч, зірнуўшы з непакоем мне ў вочы.

— Я таксама быў адноўлены ў партыі,— адказаў я. — Яшчэ тады. Да вайны. Калі ў Мінск прыехаў Панамарэнка, і становішча больш-менш стабілізавалася.

Мне прыемна было, што я не памыліўся ў гэтым чалавеку.

Недзе пад канец так званай хрушчоўскай адлігі сустрэў я зусім нечакана і Рыскіна. Таго самага, што патрабаваў ад мяне паклёпніцкую характарыстыку на Юргялевіча. Я спускаўся па вуліцы Карла Маркса ўніз, да Свіслачы. Ён, цяжка аддыхваючыся, падымаўся насустрач. Нашы позіркі сустрэліся. Ён у першы момант неяк спалохана перасмыкнуўся, быццам убачыў чалавека, які вярнуўся з таго свету. У наступнае імгненне вусны яго расцягнуліся ў разгубленай усмешцы, адкрыўшы шчарбаты рот. Ён нясмела працягнуў мне руку. Нібы на прымірэнне. Я адвярнуўся і пайшоў далей, не азіраючыся. Не было ў мяне аніякай ахвоты аднаўляць знаёмства з гэтым чалавекам. Хаця ведаў ужо, што ён сам быў рэпрэсіраваны і вярнуўся нядаўна з высылкі...

*«ЛіМ» паведамляе*

## З КАЛЕКЦЫІ ЗАБЭЙДЫ-СУМІЦКАГА

**Каштоўным набыткам папоўніўся не так даўно Цэнтральны дзяржаўны архіў кінафонафотадакументаў БССР. Гэта пласцінкі розных гадоў і магнітафонныя запісы, якія збіраў слынны спявак, прапагандыст беларускай народнай песні М. Забэйда-Суміцкі. Ягоная калекцыя ўключае рэдкія старыя дыскі з галасамі сусветных оперных «зорак». Неацэнны скарб! Але ён можа згінуць, бо унікальныя архіўныя запісы трэба тэрмінова рэстаўрыраваць, перапісваць. Тэхнічная аснашчанасць архіва наўрад ці дазволіць наладзіць у хуткім часе такую работу. (На сённяшні дзень няма нават магнітнай плёнкі).**

**Гэта — інфармацыя да роздуму і праблема, вартая неадкладнага вырашэння. Аднак гаворка зараз пра іншае.**

**Аказалася, што ў Забэйдавай калекцыі ёсць пласцінкі з запісамі колішняга яе гаспадара, выпушчаныя ў розныя гады ў Чэхаславакіі, Польшчы, Італіі. На іх М. Забэйда-Суміцкі спявае, напрыклад, арыі М. Рымскага-Корсакава, М. дэ Фальі, А. Скарлацці, Д. Перголезі і, канечне, беларускія народныя песні. У суправаджэнні хору і аркестра, пад акампанемент фартэпіяна...**

**Аднак і гэта была б чарговая інфармацыя да роздуму, калі б не тая важная, хоць і непрыкметная справа, якую зрабілі супрацоўнікі Беларускага радыё — гукарэжысёр Аляксандр Гіль, інжынер Сяргей Бандарэнка і рэдактар Людміла Мітаковіч, ініцыятар зробленага.**

**Нядаўна яны пабывалі ў Дзяржынску — там цяпер месціцца архіў — і ў сваёй абсталяванай адпаведнай гукатэхнікай машыне перапісалі пласцінкі з голасам М. Забэйды-Суміцкага на магнітную стужку і адначасова, наколькі гэта было магчыма, адкарэкціравалі, палепшылі якасць гучання. Зніклі вульгарныя шумы, сіпенне, трэск, праз якія скажаўся цудоўны голас.**

**Такім чынам, унікальныя запісы (а гэта амаль тры гадзіны музыкі) папоўнілі фонды Беларускага радыё. Да таго ж, супрацоўнікі радыё зрабілі высакародную акцыю, падараваўшы архіву камплект плёнак з аднаўленымі запісамі спевака.**

**Зацікаўленыя слухачы неўзабаве пачуюць першыя радыёканцэрты, складзеныя са спадчыны М. Забэйды-Суміцкага. А яшчэ — рыхтуецца перадача, прычым для ўсесаюзнага эфіру, прысвечаная мастацтву нашага земляка.**

**С. ВЕТКА.**

# Куды вяла дарога

## Да 85-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра ХАДЫКІ

Адпушчана яму было ўсяго з дзесятак гадоў на вершы. Можна ўзяць сёння ў рукі кніжку і прачытаць запар гэтае ягонае паэтычнае дзесяцігоддзе, прайсці след у след ягоную кароткую дарогу ў паэзіі. Там у канцы будзе абрыў, адкрыецца нечаканая бездань, там зеўрае небыццём злавесны год трыццаць сёмы, пад вершамі ўжо не пазначаны. І мы чытаем іх сёння, няўхільна набліжаемся да гэтай чорнай даты, ведаем загадзя — асуджаны, смяротнік.

Ён, Уладзімір Хадыка, паэт міласцю божаю, апантаны лірык, гэтага тады не ведаў. І не можам мы сёння з пэўнасцю сказаць, прадчуваў ці не. Пісаліся вершы. Высноўваліся, вымыкалі з-пад пяра (пісалася яму, мяркуючы па ўсім, лёгка). А пасля ў іх будуць вышукваць **прыкметы, адзнакі**, па якіх магчымым будзе (а для **тых** нічога немагчымага, здаецца, не было) вынесці свой вырак. Будуць вышукваць найдрабнейшыя намёкі на «ідэйную хібнасць» (зразумела ж, там, дзе яе не было і звання).

І станецца ён, малады, рамантычны, поўны надзей і парыванняў паэт прысуджаным да страты, навекі адлучаным ад сваіх вершаў.

Так раптоўна перарвецца жыццё таго, хто мкнуў у бясконцую далеч, насустрач сонцу. За лічаныя гады да той прадвызначанай рысы пісаў ён:

**Гэту шыр любіць бязмерней**
**Я іду з жыццём угрунь.**

І яшчэ на адзін год, на адну прыступку бліжэй да абрыву, і з той жа прагай жыццёвага сцвярджэння:

**Мы ідзем адной дарогай —**
**Сонца людзі.**
**Шмат нам радасці і многа**
**Думак будзе.**
**Будзе песня залатая,**
**Будуць стрэчы...**

**Добры дзень, мая любая!**
**Добры вечар!..**

Ён стаў паэтам у непаэтычны час. У час, калі ад паэзіі патрабавалася адно «адлюстраваць і ўславіць», калі афіцыйнай рэлігіяй быў казённы аптымізм. І дзесьці глыбока, нават ад самога сябе затоеная, тлела нязгода. Яна й жывіла вершы.

Цяжка зразумець тую халодную эпоху, усю апавітую парадоксамі. Вось адзін з іх: чым бліжэй да трагічнага фіналу, тым больш насычаны святлом, прасякнуты жыццярадаснасцю і пафасам вершы.

Сам час усім гнётам сваёй непазбежнасці нібыта спрыяў незваротнасці такога парадку. Хіба што дзесьці на паўдарозе паміж нараджэннем паэта і ягонай смерцю яшчэ можна было асцярожна пашкадаваць аб тым забароненым свеце, раз і назаўсёды закрэсленым для паэтавых мар.

**Ад дум уп'яне, дзень у дзень,**
**Хаджу я ў грукаце панэлі.**
**К бярозам шлях не прывядзе,**
**Што ў сініх далях адшумелі.**

Але тут жа патрэбна было прадбачліва захіліцца запэўненнем-замовай:

**Як грамадзянін і паэт.**
**Я ў нашу будучыню веру.**

І хай здагадаецца той, хто можа здагадацца, чаму яны, гэтыя бярозы, раптам навекі адшумелі.

І нават трошкі пазней льга было напісаць і такое:

**На узбярэжжы дзён стаю,**
**Палю душы сваёй**
**каруннкі... —**

як самаапраўданне, як нясмелая спроба абараніцца ад сумненняў. То было, напраўдзе, развітанне з сабой як паэтам. Горкае і няўхільнае.

«Душы карункі», сапраўды непатрэбныя зараз, непаўторны паэтычны свет, незалежны ад розных «прадпісанняў», заставаліся на пачатку дарогі. Самы галоўнейшы парадокс, неадпаведнасць: усё, што вызначала адметнасць паэзіі Хадыкі — самабытны стыль, раскаванасць паэтычнага мыслення, бліск асацыяцый, нерушнасць слова, — усё гэта нібыта й непатрэбна было «эпосе». Паэзія Хадыкі, яе наватарства і раскаванасць, больш спатрэбяцца наступным пакаленням беларускіх паэтаў, як духоўны вопыт-запавет перададуцца ў 60-я.

Ёсць такі зварот, ужываны ў адносінах да твораў з літаратурнай спадчыны, — «прайшлі выпрабаванне часам». Гэта значыць, аказаліся па-за ўплывам кан'юнктурнасці, вынеслі штосьці агульначалавечае са свайго часу. Мне бачыцца ў гэтым словазвароце горкая ўсмешка, калі я прыкладаю яго да нашай паэзіі канца дваццатых — трыццатых гадоў. І выпрабаванне тут чытаецца ў прамым значэнні, нат можна замяніць яго іншым словам — катаванне. Знявечаная ідэалагічным ціскам паэзія Купалы, Хадыкі, іншых паэтаў... Ніхто яе цяпер не «рэканструіруе», не адновіць у першасным выглядзе. Нікому не дадзена вызначыць, дзе былі шчырыя захапленні і заблуджэнні, а дзе дыктаваў паэтам «час». Адзінае несумненна — нічога не пераробіш. Мы, нашчадкі, маем тое, што маем.

Якім бы ён быў паэтам, каб выжыў, дажыў да нашых дзён, што б значыў тады для сучаснай літаратуры, якія б вершы і паэмы напісаў? Ніхто не адкажа на гэтыя пытанні за самога Хадыку. А паэзія ягоная, якая ўсё ж выжыла, усімі сваімі жыццяздольнымі і стойкімі парасткамі прарасла праз жорсткую эпоху, сведчыць — мы мелі б талент незвычайнай сілы.

Ёсць у паэзіі такая ўласцівасць — сведчыць часам нават насуперак непасрэднаму тэксту, даносіць сэнс, прытоены ў міжрадкоўі.

**Нам нішто, калі праз сон аб**
**нечым**
**Плача ў ночы жоўклая**
**трава... —**

калісьці напісаў паэт.

Слухаю гэтую смутную траву на Яго невядомай магіле...

**Яўген ГАРАДНІЦКІ.**

# НОВАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ




Здаецца, зусім нядаўна яшчэ мы радаваліся даведнікам «Янка Купала» і «Францыск Скарына», з хваляваннем перагортвалі старонкі «Статута Вялікага княства Літоўскага 1588», не кажучы аб крыху ранейшых выданнях—«Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», «Энцыклапедыя прыроды Беларусі», а ў культурным жыцці рэспублікі (ды і грамадскім таксама) — зноў свята, падрыхтаванае выдавецтвам «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі. Толькі што на паліцы кнігарань лёг яшчэ адзін даведачны фаліянт — «Этнаграфія Беларусі».

Важкі том, аб'ёмам звыш ста ўлікова-выдавецкіх аркушаў, умясціў больш за 3 тысячы артыкулаў па пытаннях матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа.

Шэраг тэарэтычных артыкулаў даюць навукова абгрунтаванае вытлумачэнне шматлікіх этнаграфічных паняццяў. Крыніцазнаўчыя публікацыі знаёмяць з беларусамі ў розныя гістарычныя часы. Сюды ж прымыкаюць артыкулы, у якіх расказваецца пра навуковыя і перыядычныя выданні, архівы, летапісы, статуты, што ўзнаўляюць жыццё народа ў складзе Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай, Расійскай дзяржавы.

Асабліва шырока асвятляецца духоўная культура. Абрады, звычаі, традыцыі, народнае мастацтва ў яго розных жанрах, светапогляд народа, яго веды ў медыцыне, матэматыцы, астраноміі... У сціслай інфармацыі немагчыма нават пералічыць тэматычную разнастайнасць публікацый. Згадаем толькі назвы найбольш значных — уступнага нарыса «Этнаграфія Беларусі», артыкулаў «Беларусы» і «Белая Русь».

Энцыклапедыя — плён калектыўнай працы этнографаў, фалькларыстаў, мовазнаўцаў, гісторыкаў, археолагаў, літаратура- і мастацтвазнаўцаў.

Выданне багата ілюстравана каляровымі і чорна-белымі здымкамі В. Бараноўскага, І. Браіма, Я. Сахуты і іншых, а таксама ўзятымі з архіваў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР, Беларускага дзяржаўнага музея народнай архітэктуры і побыту, БелСЭ.

# «ХОЧАЦЦА ВЕРЫЦЬ!»

(Пачатак на стар. 4).

слыя тэрміны на асваенне мовы. Гэта датычыць найперш артыкулаў 6, 7, 8, 22, 23, 24, 25, 27, 28, 29»), прафесар **С. С. Усоеў** з Гродзенскага медыцынскага інстытута («Ёсць сэнс агульнаадукацыйныя школы пераводзіць на беларускую мову на працягу 3-5 гадоў. Каму ж у першую чаргу вучыцца, як не вучням ды настаўнікам? Што тычыцца вышэйшых навучальных установ, то дзесяцігадовы тэрмін можна пакінуць з удакладненнем «для поўнага пераходу на беларускую мову», а на працягу 3-5 гадоў павінны быць створаны беларускамоўныя факультэты, патокі, групы, што прымусіць выкладчыкаў і навукоўцаў заняцца падрыхтоўкай матэрыялаў па выкладанні сваіх курсаў і дысцыплін на беларускай мове неадкладна, бо трэба аднавіць тэрміналогію, падрыхтаваць і выдаць падручнікі, а галоўнае апрабаваць іх у навучальным працэсе, каб у далейшым удасканаліць і выдаць ужо большым тыражом»), а таксама група студэнтаў Наваполацкага політэхнічнага інстытута ў складзе **М. Ізаіткі, В. Бандарэнкі, А. Завадскага, Ф. Шайкі, А. Крыловай, А. Рудака, В. Дробатава** і **У. Шаўчэнкі**, урач **М. Р. Васільчанка** і яго сын-вучань **А. М. Васільчанка** з Мінска, жывёлавод з вёскі Сяменча Жыткавіцкага раёна Мікалай Міхайлавіч **Конан**, наш даўні аўтар і сябра мінчанін Яўген **Шмыгалёў** і многія, многія іншыя нашы карэспандэнты.

**П. С. Басалыга** са Слуцка і малодшы навуковы супрацоўнік мінскага НДІ гематалогіі і пералівання крыві **Н. М. Санько** пішуць аб тым, што, на іх думку, у праекце закона занадта шмат увагі аддаецца рускай мове, лёс якой вырашаецца не ў Беларусі, а ў Расіі, як і лёсы іншых моў вырашаюцца на этнічных тэрыторыях іх носьбітаў.

Заўвагі і прапановы па ўдакладненні тых ці іншых артыкулаў праекта закона, аналагічныя згаданым у лісце М. Пятрэнкі,— у лістах інжынера Валерыя **Шупо** з Мінска, пенсіянера, ветэрана працы мінчаніна Мікалая Іванавіча **Наско**, рабочага з Салігорска Уладзіміра Мікалаевіча **Кайко**, інжынера з Мінска Валерыя Віктаравіча **Палсцюка**, рабочага («і вашага пастаяннага чытача») з Мінска **І. В. Доўнара**, «беларуса **А. В. Маразюка** і рускай **М. У. Маразюк**» (так у лісце) з Бярозы, «рускага па паходжанні і беларуса па месцы нараджэння і жыхарства» **Л. Ц. Мішына** з Мінска, Сяргея Сяргеевіча **Аляксандрава** з Наваполацка і г. д.

Суполка ТБМ пры Віцебскім інстытуце лёгкай прамысловасці даслала ліст, у якім ёсць такая прапанова: «Па прычыне таго, што ў 18 артыкулах (2, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 13, 17, 18, 19, 22, 25, 26, 28, 29, 31, 32) з 35 у праекце закона заканадаўча патрабуецца ці згадваецца валоданне рускай мовай усімі жыхарамі Беларусі, а таксама па прычыне гістарычных і эканамічных сувязей, якія натуральна вядуць да ведання рускай мовы, няма ніякай патрэбы абвяшчаць рускую мову мовай **міжнацыянальных** зносін. Такая трактоўка можа з'явіцца падставай для таго, каб ігнараваць пашырэнне сферы ўжывання беларускай мовы і пакінуць па сутнасці ўсё без змен, а таму ў артыкуле 2 павінен быць наступны запіс: «Беларуская ССР забяспечвае права свабоднага карыстання рускай мовай — мовай міжрэспубліканскіх зносін у Саюзе ССР».

**ВЯЛІКІ ЛІСТ** даслаў у рэдакцыю ўласны карэспандэнт «Гродненской правды» з Мастоў Лявон **Вашко**. Ён спрабуе кінуць позірк на ўвесь пакутлівы і цяжкі шлях нашага народа да самаўсведамлення, да сваёй дзяржаўнасці, робіць некаторыя прапановы па ўдакладненні паасобных артыкулаў, а заканчвае так: «Мне здаецца, увядзенне закона аб мовах у дзеянне стварае спрыяльныя варункі для адраджэння нашай мовы. Толькі вось тэрміны «для паступовага ўкаранення палажэння закона ва ўсе сферы грамадскага жыцця» знарок завышаныя. Дзесяць гадоў! Згадайма хоць адну нашу доўгатэрміновую праграму (апрача калектывізацыі), якая б не была правалена бюракратамі. Мінуўшчына сведчыць: зусім мала гадоў хапала на тое, каб «апалячыць» ці «абрусіць» беларусаў. А было ж яшчэ і «анямечванне».

А што, калі і сапраўды ёсць сякія-такія падставы для гэтай боязі, што прагучала ў радках чытацкага ліста?

Наш сталы чытач і карэспандэнт з украінскага горада Ізяслава Пятрусь **Капчык** піша аб тым, як сустрэлі праект Закона «Аб мовах у Беларускай ССР» нашы землякі-беларусы, што жывуць і працуюць у адным з ім горадзе. Думка ўсіх аднадушная: беларуская мова павінна стаць у Беларусі дзяржаўнай!

Настаўнік Касцянёўскай школы Слонімскага раёна Аляксей **Якімовіч**, дзелячыся сваім роздумам над старонкамі праекта закона, закрануў нечаканае пытанне. «Чамусьці ў праекце нічога не сказана пра тых людзей, якіх высяляюць з «чарнобыльскай зоны»,— піша тав. Якімовіч.— Куды іх высяляюць і будуць высяляць? Якім чынам? Ці змогуць яны захаваць сваю вясковую супольнасць, культуру, моўную адметнасць? У нас на Гродзеншчыне ёсць нямала знікаючых вёсак, у якіх засталося ўсяго па некалькі хат. Хіба нельга адбудаваць іх, пашырыць? Нашы людзі не будуць супраць. Няхай перасяляюцца браты-палешукі адразу ўсёй вёскай, сваёй гурмой. Наш святы абавязак — дапамагчы ім».

Думка, безумоўна, цікавая, і яна, бадай, мае права знайсці пэўны адбітак у будучым законе аб мовах.

Свае «заўвагі на палях праекта закона аб мовах» даслаў Іосіф Аляксандравіч **Быхавец** з гарадскога пасёлка Лынтупы Віцебскай вобласці. Ліст ягоны вылучаецца песімістычнай ацэнкай праекта, праўда, неаргументаванай як след.

Мінчанка Таццяна Іванаўна **Гурэцкая** піша не аб праекце закона, а пра некаторыя акалічнасці, у якіх яму ўступаць у дзеянне і працаваць. У прыватнасці, яна з горыччу і недаўменнем расказвае аб тым, што ля Палаца культуры тонкасуконнага камбіната імя Кісялёва, дзе створаны «Цэнтр беларускай культуры», няма аніводнай аб'явы на роднай мове, нават шыльда пры ўваходзе і тая на рускай мове; і ў сувязі з гэтым Таццяна Іванаўна заўважае, што ці не вынік гэта пазіцыі некаторых работнікаў Фрунзенскага райвыканкома, адзін з якіх у прыватнай гаворцы з ёю выказаўся так: «Никто не заставит меня изучать белорусский язык... Пишите, куда хотите... Никакого ущемления белорусского языка я не вижу...» І ў доказ таго, што ён не вялікадзяржаўны шавініст, таварыш гэты паказаў уласны пашпарт, дзе пазначана, што ён — беларус...

Праект закона аб мовах падтрымліваю ўсёй душой; хачу, каб хутчэй наша роднае слова загучала паўсюль, каб беларуская мова стала дзяржаўнай, бо толькі пры гэтай умове ўсе будуць зацікаўлены ў яе вывучэнні, толькі тады яна расквітнее,— прыблізна такія словы ў кароткіх лістах мінчан **В. У. Макоўскай**, Віталя Фёдаравіча **Равінскага**, Міхася Уладзіміравіча **Касцюкевіча** і Аляксея Фёдаравіча **Аўчынкі**, у лістах студэнтаў Мінскага інстытута фізкультуры (14 подпісаў) і навучэнцаў 2 «А» групы Ваўкавыскага педвучылішча (27 подпісаў).

А яшчэ ў рэдакцыйнай пошце праекта закона аб мовах — каля двухсот паштовак, у якіх некалькі кароткіх, як у тэлеграмах, радкоў — аб тым, што ў Беларусі дзяржаўнай мовай павінна быць беларуская мова. Пералічыць тут прозвішчы ўсіх, хто прыслаў нам гэтыя паштоўкі-тэлеграмы, проста немагчыма.

Пісьмы пра законапраект аб мовах працягваюць ісці. Паколькі тэрмін абмеркавання заканчваецца 15 студзеня, рэдакцыя гэтую частку пошты перасылае ў Вярхоўны Савет БССР.

**АДДЗЕЛ ПІСЬМАЎ І ГРАМАДСКАЙ ДУМКІ.**

*Гісторыя вучыць...*

**Валянцін ТАРАС**

# Летам шэсцьдзесят восьмага

У АДЗІН з апошніх дзён жніўня 1968 года, каля дома № 24 па вуліцы Каліноўскага, дзе я ў той час жыў, акурат насупраць майго пад'езда спынілася чорная «Волга». Я стаяў на балконе, курыў, і, як толькі яна спынілася, падумаў, дакладней, не падумаў нават, а інтуітыўна адчуў, што гэты чорны лімузін прыехаў па маю душу, што гэта — яны. І сапраўды: малады чалавек у цывільным, які выйшаў з машыны і накіраваўся ў пад'езд, праз мінуту пазваніў у маю кватэру.

— Валянцін Яфімавіч?

— Так...

— Я з Камітэта дзяржаўнай бяспекі.

Ён паказаў службовае пасведчанне і сказаў, што прыехаў па мяне, што мяне там чакаюць.

— Гэта арышт?

Малады чалавек нічога не адказаў, толькі пацiснуў плячыма, падаўся да тэлефона, які стаяў у прыхожай, зняў трубку, але перш чым набраць нумар, заўважыў:

— Вазьміце з сабою пашпарт.

Калі б я ў тыя хвіліны мог разважаць спакойна, дык зразумеў бы, што ніякі гэта не арышт. Які ж арышт без прад'яўлення ордэра, без вобыску? А пашпарт, вядома, спатрэбіцца для бюро прапускоў. Ды хоць я даўно чакаў, што мяне туды абавязкова паклічуць, у гэтыя першыя хвіліны расхваляваўся і зрабіў глупства; пакуль малады чалавек размаўляў з кімсьці па тэлефоне, я паспеў у сваім пакоі чыркануць жонцы панічную запіску: «Мяне, здаецца, арыштавалі. Калі ўвечары не вярнуся — звані ў КДБ».

Але ўжо ў машыне я пашкадаваў, што пакінуў тую запіску. Гэтак напалохаць жонку!.. Папрасіць на хвілінку вярнуцца? Але ж я не ў таксі... Гадка было на душы: як жа я так здрэйфіў? Разам з тым, як ні дзіўна, адчуў я і палёгку: нарэшце яны ўзяліся і за мяне! Бо амаль усіх маіх сяброў і знаёмых пачалі выклікаць туды яшчэ ў канцы 1967 года, пасля чаго некага выключылі з партыі і знялі з работы, некаму абвясцілі вымовы і панізілі ў пасадзе. А мяне чамусьці не чапалі, ад чаго мне рабілася няёмка перад сябрамі.

Праўда, работу страціў і я. Яшчэ месяцы за два да гэтага тагачасны галоўны рэдактар часопіса «Нёман», дзе я загадваў аддзелам прозы, Андрэй Ягоравіч Макаёнак прапанаваў мне падаць заяву аб звальненні «па ўласным жаданні».

— Гэта адзінае, што я магу для цябе зрабіць, — сказаў ён. — Ад мяне патрабуюць, каб я звольніў цябе з «воўчым білетам», каб падвёў пад артыкул...

— Ты верыш, што я антысаветчык?

— Язык мой — вораг мой, — пахмурна ўсміхнуўся Андрэй. — Вось пра што ты забыўся.

Ён паабяцаў, што пастараецца даць мне магчымасць зарабляць у «Нёмане» нейкую капейчыну, аднак не адразу, а калі ўсё ўтрасецца. Ды сталася так, што маё імя знікла са старонак усіх рэспубліканскіх часопісаў і газет аж на цэлых восем год — да 1976-га, калі «Нёман» пачаў друкаваць раман Габрыэля Гарсія Маркеса «Восень патрыярха» ў маім (разам з Карласам Шэрманам) перакладзе. Гэтыя восем год былі суровыя, зарабляў я рублёў трыццаць у месяц.

Асабліва цяжкімі былі першыя месяцы беспрацоўя, бо без работы аказалася і мая жонка. Яна вымушана была пайсці з Беларускага тэлебачання, дзе працавала ледзь не з першых дзён яго заснавання, пасля таго, як ёй забаранілі паяўляцца на экране, самой весці падрыхтаваныя ёю перадачы. А забаранілі толькі таму, што яна — мая жонка, таму, што мае сябры былі і яе сябрамі. Праз некаторы час яна ўладкавалася ў адзін НДІ на пасаду малодшага навуковага супрацоўніка з мізэрным акладам. З голаду мы не паміралі, але зноў добра адчулі, што такое нястача. Кажу «зноў», бо нястача была добрай нашай знаёмай: дзеці вайны, мы ў часы акупацыі і ў пасляваенны час зведалі і не такое. Горка было не ад нястачы, а ад таго, што некаторыя знаёмыя, убачыўшы мяне, пераходзілі на другі бок вуліцы, ад падазронапалахлівых позіркаў, ад звягі, што мяне быццам бы бачылі ў Маскве, калі я выходзіў з пасольства ФРГ, куды хадзіў прасіць палітычнага прытулку, ад ананімак у рэдакцыю часопіса «Юность»: «Каго друкуеце? Гэта ж вораг!», ад таго, што мінскі АВІР катэгарычна адмовіў мне з'ездзіць у Польшчу да роднай сястры, ад таго, што нехта загадаў зняць маю фатаграфію ў музеі Вялікай Айчыннай вайны са стэнду фотаэкспазіцыі «Хлопчыкі-партызаны»...

І вось, нарэшце, і мяне вязуць у КДБ. Што ж адбылося?

Недзе ў 1965 годзе (ці годам пазней) у рэдакцыю «Нёмана» завітала незнаёмая мне дагэтуль жанчына і папрасіла паглядзець яе рукапіс. Я раскрыў папачку, якую яна паклала перада мною на стол, і на тытуле прачытаў: «Лидия Вакуловская. Прерванный побег. Повесть».

Прозвішча мне ні аб чым не гаварыла, аднак першыя ж старонкі рукапісу, якія ў прысутнасці аўтара я прабег вачыма, сведчылі, што аўтар — не навічок у літаратурнай справе: адчувалася вопытная, упэўненая рука.

Я папрасіў, каб жанчына расказала пра сябе, і даведаўся, што яна — член Саюза пісьменнікаў, выдала некалькі кніжак прозы, аўтар сцэнарыя кінакамедыі «Лушка», якая якраз у той час прайшла па экранах. Яшчэ я даведаўся, што яна дзесяць год працавала на Чукотцы журналісткай, потым у Калінінградзе, у партыйнай газеце. А цяпер вось пераехала ў Мінск, у сувязі з тым, што сюды, у рэдакцыю газеты «Советская Белоруссия», на пасаду загадчыка аддзела прапаганды накіравалі яе мужа — журналіста Сяргея Вінаградава. А родам яна з Украіны, з горада Шчорс, што на Чарнігаўшчыне.

Так адбылося наша знаёмства. Я паабяцаў Лідзіі Аляксандраўне, што пастараюся прачытаць яе аповесць як мага хутчэй, і калі Вакулоўская зноў прыйшла ў рэдакцыю, каб даведацца пра лёс рукапісу, быў рады сказаць ёй, што рэч мне спадабалася: буду прапаноўваць у адзін з бліжэйшых нумароў. Толькі вось назва — «Прерванный побег»... Штосьці не ляжыць у мяне душа да гэтай назвы. Можа, узяць за назву імя гераіні аповесці? Яно такое прыгожае і мілагучнае!

Лідзія Аляксандраўна згадзілася, я ўзяў чырвоны аловак, закрэсліў «Прерванный побег» і напісаў над ім: ТАЮНЭ. Пад гэтай назвай аповесць і была неўзабаве надрукавана ў «Нёмане».

Дзеянне аповесці адбываецца на Чукотцы. Гэта гісторыя аб тым, як маладзенькая чукчанка Таюнэ натрапіла ў тундры на знясіленага чалавека з пакалечанай нагой, рускага, як прыцягнула яго ў самотную паляўнічую ярангу, што знаходзілася далёка ад пасёлка аленяводаў і паляўнічых, пачала лячыць народным спосабам. А потым і закахалася. А чалавек гэты, які выдаваў сябе за геолага з нейкай сакрэтнай геалагічнай партыі, быў на самай справе крымінальнік, зэк, які ўцёк з лагера. Ён таксама пакахаў — упершыню ў жыцці. І пасля доўгіх сумненняў, душэўных пакут прызнаўся Таюнэ, хто ён такі. Скончылася ўсё тым, што Таюнэ ўгаварыла яго павініцца перад уладамі, і паклялася, што будзе яго чакаць, колькі б яму ні давялося быць у зняволенні.

Сюжэт, вядома, не дужа арыгінальны, прымушае ўспомніць, напрыклад, «Сорак першы» Б. Лаўранёва (там двое на выспе, тут — у адзінокай яранзе), але аповесць прываблівала не сюжэтам, а чароўным, кранаючым вобразам Таюнэ, сапраўдным адкрыццём характару, дакладным веданнем Поўначы і яе людзей. І не было ў аповесці ніякай палітыкі. У благім сне не магло сасніцца, што пра гэтую аповесць стануць гаварыць як пра нейкі крымінал, як пра антысаветчыну, якую пісьменніца Лідзія Вакулоўская збіралася тайна пераправіць на Захад, спакусіўшыся прыкладам Андрэя Сіняўскага і Юлія Даніэля...

— Скажыце, Валянцін Яфімавіч, якія свае творы Вакулоўская мела намер перадаць за мяжу?

— Не ведаю такіх твораў.

— А «Прерванный побег»? Ёсць у Вакулоўскай такі твор?

— Ёсць.

— Вось бачыце! А гаворыце, што не ведаеце.

— Навошта ёй перапраўляць яго за мяжу? Аповесць даўно надрукавана ў часопісе «Нёман».

— Як гэта?!

Я расказаў супрацоўніку КДБ, якім чынам «Прерванный побег» ператварыўся ў «Таюнэ».

На яго твары — сярдзітае расчараванне. Ён зазірае ў нейкую паперку, пытаецца:

— Ну, а такі твор Вакулоўскай — «Двести километров до суда» — вам вядомы?

— Вядомы. Але і гэта не «самвыдат». Вы можаце яго прачытаць у маскоўскім часопісе «Знамя», дзе ён нядаўна надрукаваны.

Суразмоўнік нейкі час маўчыць, барабаніць пальцамі па стале. А мяне бярэ злосць. Мне хочацца сказаць яму, што я дужа здзіўлены такой усебаковай дасведчанасцю КДБ аб творах Вакулоўскай, хочацца спытаць, за што яму плацяць грошы, чаго ён шукае сякеру пад лаўкай. Ды тут пытанняў не задаюць, тут адказваюць на іх, хоць самы сапраўдны допыт, калі ты не арыштаваны, называецца тут бяседай. Прафілактычнай.

Цікава, пра якія яшчэ «падпольныя» рукапісы ён спытае? Суразмоўнік, аднак, мяняе тактыку, гаворыць спачувальна, нават пранікнёна:

— Вось вы ўсяляк абараняеце, выгароджваеце Лідзію Аляксандраўну, а яна, між іншым, седзячы ў гэтым кабінеце, на гэтым жа крэсле, на якім седзяцё вы, гаварыла пра вас дрэнна, вельмі дрэнна!

— І што з гэтага вынікае? — я ўсё ж парушаю правілы «бяседы». — Я павінен пацвердзіць, што «Прерванный побег» і «Двести километров до суда» прызначаліся заходнім антысавецкім выдавецтвам? Але ж гэта смешна! Чаму ж не зазірнуць у часопісы, дзе яны друкаваліся? Хіба ў вас тут няма бібліятэкі? Той, хто нагаварыў вам пра Вакулоўскую і пра ўсіх нас, чуў звон, але не ведае, дзе ён!

— Але ж вы адмаўляеце ўсё, — пачынаючы злавацца, гаворыць суразмоўнік. — Адмаўляецеся прызнаць, што на кватэры ў Вакулоўскай вяліся антысавецкія размовы, хоць самі ў іх удзельнічалі!

— Ніякіх антысавецкіх размоў не было.

— Былі, — кажа ён мне, — былі антысавецкія размовы. І сама Лідзія Аляксандраўна гэта пацвердзіла. Так што не варта вам упарціцца, тым больш, паўтараю, што яна вас тут не шкадавала!

Паўза. І раптоўнае пытанне:

— Вакулоўская заклікала да тэрору?

— Да тэрору?! Якая лухта!

— Ліст Салжаніцына таксама лухта? Хто даў яго Вакулоўскай з мэтай тыражыравання на машынцы? Вы?

— У мяне ліста Салжаніцына не было. Я прачытаў яго ў рэдакцыі «Нёмана», куды ён прыйшоў па пошце на імя галоўнага рэдактара. Рэдактар і азнаёміў з ім супрацоўнікаў рэдакцыі. Гэта па-першае. Па-другое, не бачу ў лісце Салжаніцына нічога антысавецкага, магчыма, ён занадта рэзкі, рэжа слых, але чаму яго нельга чытаць і нават перадрукоўваць — я не разумею. Салжаніцын — выдатны пісьменнік, «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» вылучаўся на Ленінскую прэмію, яго рэцэнзавала «Правда»...

— У нас наконт Салжаніцына іншая думка, — жорстка гаворыць гаспадар кабінета і, памаўчаўшы, паўтарае пытанне. — Дык хто даў Вакулоўскай гэты ліст?

— Не ведаю.

— Не, не жадаеце вы нам дапамагчы, — з дакорам уздыхае той. — Не хочаце быць шчырым. А, зноў жа, сама Лідзія Аляксандраўна прызнала, што ліст гэты далі ёй вы.

Я гляджу на яго і здзіўляюся гэткай бяздарнай рабоце. Я ж ва ўсіх падрабязнасцях ведаю, аб чым тут распытвалі Ліду Вакулоўскую, кім цікавіліся, ведаю, што яна гаварыла. Яна ж усё пераказала мне, махнуўшы рукою на падпіску аб неразгалошванні. Таму, што мы калегі і сябры, блізкія сябры, і няма ў нас адзін ад аднаго ніякіх сакрэтаў. Як ён не разумее, што я ніколі не паверу, быццам Ліда гаварыла яму пра мяне нешта дрэннае, што яна мяне «закладвала»? Але ён не разумее, таму і спрабуе злавіць мяне на гэткага прымітыўнага «чарвяка», — пераканаңы, відаць, што ўсе людзі такія ж, як тая юркая «мышка», якую падаслалі ў асяроддзе Ліды, у нашу вялікую і стракатую — на жаль, занадта стракатую! — кампанію. «Мышка» і цягала ў гэты кабінет усю тую лухту пра падпольныя рукапісы і тэрарыстычныя задумы — разам з даставернай інфармацыяй. Так, прызнаю: з даставернай. Гэта праўда, што, збіраючыся ў Ліды, мы — літаратары, журналісты, мастакі, кіношнікі — зацята спрачаліся аб палітыцы, абураліся Брэжневым і яго акружэннем, тым, што такога кумаўства ва ўсіх эшалонах улады яшчэ не было ў нашай краіне, што чыноўнікі расплادзіліся, як саранча, што ўсіх нас душыць цэнзура, што вяртаецца, паўтараецца «вялікая сталінская эпоха» — у выглядзе бяздарнага фарса. А народ п'е, бо што ж яму яшчэ застаецца рабіць?

З песні слова не выкінеш: па гэтай частцы і мы былі не бязгрэшныя, а пад час застолля ў Ліды нехта мог назваць Леаніда Ільіча дыназаўрам, Суслава — сушанай воблай, Шалепіна — жалезным Шурыкам, а ўсіх разам — сталінскай шарагай. А Ліда магла пажартаваць, слухаючы размовы пра Сіняўскага і Даніэля, якія перадавалі свае творы на Захад, што, маўляў, і яна магла б падкінуць туды сёе-тое, напрыклад, «Прерванный побег» і «Двести километров до суда» — таксама ж пра сталінскія часы, пра зэкаў, як у Салжаніцына. Ці магла ўсклікнуць, абураная расказам пра якога-небудзь высокапастаўленага злодзея: «Я такіх страляла б!», — вось табе і заклік да тэрору... А «мышка» ўсё гэта слухала, запамінала і, каб выглядаць сваёй сярод сваіх, таксама нешта пішчала аб злоўжываннях, ківала галоўкай у знак згоды. Ах, якая паслужлівая, якая спрытная была «мышка»! І ў краму злётае, і на стол накрые, і памые посуд: «Лідзія Аляксандраўна, вы мне як мама!».

Мы яе хутка вылічылі, «мышку», але я не магу назваць яе імя, бо дакументаваных доказаў няма, даносы яе захоўваюцца недзе «за семью печатями», а без гэтага паспрабуй прыцягнуць яе да адказнасці хоць бы на судзе чэсці! Праўда, яна была пакарана яшчэ ў тыя часы: трапіла пад суд за дробнае махлярства. Такі вось высокамаральны «кадр» сакрэтнай службы!..

Быў яшчэ адзін «дабрахот», бойкі рэпарцёр адной гарадской газеты, які і сёння завіхаецца на той жа ніве, толькі бародка ягоная з чорнай зрабілася сівой, што не перашкаджае яму з пафасам трэсці ёю, калі трэба даць

дыхту розным «нефармалам» і іншым «антысаветчыкам», — заўважаю, што амаль усе тагачасныя зацятыя выкрывальнікі вальнадумства засталіся, трэба аддаць ім належнае, вернымі сабе, шпараць і сёння па тагачасным ідэалагічным трафарэце — ну, напрыклад, на старонках той жа «вячоркі», якая не так даўно кляйміла БНФ «Адраджэнне», Васіля Быкава і Алеся Адамовіча, Зянона Пазняка і Юрыя Хадыку тымі ж словамі, якімі кляйміла ў шэсцьдзесят восьмым удзельнікаў «групы Вакулоўскай». Той «дабрахот» укінуў у гэту справу свае тры грошы і тады, і цяпер. Ды, зноў жа, не магу назваць яго імя, бо перш за ўсё маю на ўвазе не адкрытыя яго выступленні, а тое даўняе таемнае «дабрахоцтва», якое не дакажаш без дакументаў. Зрэшты, справа не ў ім і не ў «мышцы», а ў той таталітарнай сістэме, якая мела патрэбу ў такіх людзях, якая адкідвала злавесны цень ГУЛАГа на кожнага чалавека, які здольны быў задумацца над тым, што дзеецца ў краіне, здольны быў усумніцца ў застыглых догмах. Ледзь усумніўся — і ты ўжо антысаветчык!

Менавіта ў той самы час — шэсцьдзесят восьмым — быў выключаны з партыі за «няправільныя думкі» (!!!) выкладчык кафедры марксізму-ленінізму Беларускага політэхнічнага інстытута, цяперашні дырэктар Інстытута філасофіі Акадэміі навук СССР, член-карэспандэнт гэтай акадэміі, вядомы вучоны Вячаслаў Сцёпін, — зноў жа па даносе «дабрахотаў». (Пад час той маёй «бяседы» ў КДБ суразмоўнік распытваў мяне і пра Сцёпіна, які ў яго накірунак думкі?). Выключалі, праўда, і без даносаў, як, напрыклад, паэта Фёдара Яфімава. Выступаючы ў красавіку 1968 года на партактыве рэспублікі, ён шчыра падзяліўся з таварышамі па партыі сваімі думкамі наконт свабоды слова, сказаў тое, што сёння матэрыялізавана ў праекце Закона аб друку, які ў першым чытанні прыняты Вярхоўным Саветам СССР. Фёдар яшчэ сыходзіў з трыбуны, а яму ўслед ужо кінулі з прэзідыума: «Пакладзеш партбілет!»

Можна зразумець такую рэакцыю функцыянера: выступленне Фёдара Яфімава рэзала яму, і, вядома, не толькі яму, слых, біла ў самы цэнтр таго стварэння таталітарнага рэжыму, якое завецца цэнзурай. Прывяду цытату з ліста А. Салжаніцына IV з'езду савецкіх пісьменнікаў — выступленне Яфімава пераклікалася з асноўнымі тэзісамі гэтага ліста. Салжаніцын жа, у прыватнасці, пісаў вось што: «Не прадугледжаная канстытуцыяй і таму незаконная, нідзе публічна не названая, цэнзура пад затуманеным імем «Галоўліта» навісае над нашай мастацкай літаратурай і здзяйсняе гвалт непісьменных людзей над пісьменнікамі. Перажытак сярэднявечча, цэнзура дацягвае свае мафусаілавы тэрміны ледзь не ў XXI стагоддзе! Тленная, яна цягнецца прысвоіць сабе тое, што з'яўляецца прэрагатывай нятленнага часу: адбіраць дастойныя кнігі ад недастойных.

За нашымі пісьменнікамі не прадугледжваецца, не прызнаецца права выказваць апераджальныя меркаванні аб маральным жыцці чалавека і грамадства, па-свойму тлумачыць сацыяльныя праблемы альбо гістарычны вопыт, асабліва той, што ў пакутах здабыты ў нашай краіне. Творы, якія маглі б выказаць народную думку, якая наспела, своечасова і як лекі паўздзейнічаць у галіне духоўнай ці на развіццё грамадскай свядомасці, забараняюцца альбо каверкаюцца цэнзурай з меркаванняў эгаістычных, дробязных, а для народнага жыцця недальнабачных».

Далей А. Салжаніцын пісаў аб бяспраўнасці савецкага пісьменніка як асобы, аб прыніжанай ролі Саюза пісьменнікаў, які не можа, а часта і не жадае абараніць сваіх членаў ад палітычнага і маральнага тэрору, пакідае іх адзін на адзін з усемагутнай дзяржавай. І ніводнага слова маны не было ў тым лісце Салжаніцына, кожнае слова пацвярджалася практыкай штодзённага літаратурнага жыцця, што мы, беларускія літаратары, маглі бачыць хоць бы на прыкладзе цкавання Васіля Быкава — амаль у той самы час пачаліся «ідэйна-прыпадачныя» атакі на яго аповесць «Мёртвым не баліць», наогул на ўсю творчасць пісьменніка. Характэрна, што і тады, як і сёння, дагматыкам-функцыянерам, сталінісцкай крытыцы асабліва ненавісны быў Васіль Быкаў з яго бескампраміснай праўдай, з яго культам сумлення, з яго высакародным гуманізмам, карацей кажучы, з усёй яго пазіцыяй сапраўднага інтэлігента. Тут, дарэчы, варта ўспомніць і тое, як гэта пазіцыя Быкава была заяўлена з трыбуны V з'езда пісьменнікаў Беларусі, — наўрад ці маладое пакаленне чула што-небудзь пра выступленне Васіля на тым з'ездзе. А яно было прарочым голасам нашага сёння, таму і было загнана тады ў падполле, вымушана было зрабіцца дакументам «самвыдата».

Так званая «справа Вакулоўскай» была, такім чынам, толькі адной з многіх праяў алергіі брэжнеўскага рэжыму на дух XX і XXII з'ездаў КПСС, які жыў у душах людзей майго пакалення, была адлюстраваннем страху перад любой самастойнай думкай, перад любой нефармальнай суполкай, нават на ўзроўні побыту. Рэакцыя на іх была абсалютна неадэкватнай, бо ніхто з нас, удзельнікаў «групы», не быў дысідэнтам, самае большае, на што нас хапала — гэта абмяркоўваць у сваім коле згаданы ліст Аляксандра Салжаніцына, ну, яшчэ паслаць яму тэлеграму ў сувязі з яго пяцідзесяцігоддзем. А глядзі ж ты, паспрабавалі выставіць нас антысавецкай арганізацыяй! І многім з гэтай «арганізацыі» зламалі жыццё, сапсавалі кар'еру, запляміялі рэпутацыю. Але самае страшнае, што многіх прымусілі нагаварыць на сябе і на сваіх таварышаў, прызнацца, што літаральна ўсё, у чым нас абвінавачвалі, — праўда. Потым гэтыя людзі павініліся, горка пакаяліся. І не магу я кінуць у іх камень. Лягчэй было прайсці праз гэта выпрабаванне мужу Ліды, Сяргею Вінаградаву, франтавіку, адважнаму салдату, які ўступіў у партыю ў сорак другім, у акопах Сталінграда, які вярнуўся з вайны з тузінам баявых ордэнаў і медалёў (гэта да характарыстыкі антысаветчыка!), — яго выключылі з партыі і знялі з работы «за страту палітычнай пільнасці і згодніцтва з Л. А. Вакулоўскай» — не прадаў, бачыце, жонку, адмовіўся паклёпнічаць на яе! Лягчэй было і мне: за плячыма партызанскае дзяцінства, тое-сёе пабачыў у жыцці. Лягчэй было і Лідзе: на Поўначы, у Магадане і на Чукотцы, яна ведала ад тамтэйшых былых зэкаў, на якія «штучкі» здольныя «кампетэнтныя органы». Але ўявіце сабе жанчыну самага мірнага складу, якая палітыкай цікавілася, што называецца, збольшага, якая па журналісцкай сваёй службе заўсёды рабіла толькі тое, што загадана. І вось яе выклікаюць у грозную ўстанову, ад адной толькі назвы якой у законапаслухмянага чалавека душа ў пяты, і кажуць, што ўсё, што здавалася ёй бяскрыўдным франдзёрствам за бутэлькай віна — антысавецкая агітацыя і прапаганда, — дзе ж ёй было ўстаяць, не перапалохацца да смерці?

Аднак, нягледзячы на «прызнанні» многіх, «справа Вакулоўскай» так на карані і засохла. Ці то не хапіла «матэрыялу», ці то нехта з вышэйшых кіраўнікоў зразумеў, што ўсё гэта туфта. Хутчэй за ўсё — другое. Што ж, дзякуй таму, хто спыніў гэту «справу». Ён ўратаваў нас ад ГУЛАГа, цень якога насунуўся было так блізка...

У апошні раз я адчуў магільны подых гэтага ценю дзён праз дзесяць пасля таго, як мяне звазілі туды на чорнай «Волзе».

Нечакана завітаў да мяне стары знаёмы, прыяцель школьных пасляваенных год Саша В. Не адзін, а з нейкім хлопцам. Усмешлівы такі хлопец, мілавідны, вочы блакітныя і вялікія, што ў дзяўчыны. Спачатку размова ішла пра розныя дробязі, пра тое, як жывецца-можацца, а потым Саша пацікавіўся, што чуваць у літаратурным свеце, што піша Салжаніцын, што я сам напісаў новага? І раптам кажа:

— Слухай, калі трэба штонебудзь надрукаваць друкарскім спосабам, ну, што-небудзь такое, што «не прапускаюць», ён можа дапамагчы. — Саша кіўнуў на таго хлопца. — Ты не сумнявайся, ён свой.

Мне дужа захацелася даць майму колішняму прыяцелю, якому я верыў столькі год, па пысе, але я спакойна сказаў, што нічога такога не пісаў і не пішу. А развітваючыся, папрасіў перадаць прывітанне таму таварышу з КДБ. І тут Сашу ці то кемлівасці не хапіла, ці то сумленне ў яго яшчэ было жывое: ён не вылупіў вочы, не здзівіўся, а хто, маўляў, такі, той імярэк? Ён пачырванеў густа, як хлопчык, якога злавілі за руку на гадкім учынку. А ў таго хлопца блакітныя вочы зрабіліся адразу шэрымі, як сталь, і твар зрабіўся цвёрдым і злосным.

— Пайшлі, — буркнуў ён Сашу, — разумнік!..

Здавалася б, нічога страшнага не адбылося, нікога не судзілі, нікога не пасадзілі. Але, будуючы прававую дзяржаву, якая, веру, будзе канчатковым вынікам нашай перабудовы, мы абавязаны помніць усе ўрокі мінулага. Вось чаму я вырашыў расказаць пра гэту «справу». Спадзяюся, што і гэты эпізод з часоў брэжнеўшчыны дапаможа сённяшнім маладым людзям дастойна ацаніць нашы дні, калі — хай з вялікімі пакутамі, памылкамі, няпростымі кампрамісамі, у цяжкіх «родавых схватках» — нараджаецца сапраўды дэмакратычнае сацыялістычнае грамадства, дзе няма патрэбы хаваць свае думкі і пачуцці, свае сімпатыі і антыпатыі, дзе КДБ перастае быць змрочным ценем ГУЛАГа, «вездесущим» кантралёрам чалавечых душ, а цалкам пераключаецца на выкананне сваёй непасрэднай задачы — стаяць на варце дзяржаўнай бяспекі нашай Радзімы.

P. S. Калі гэтыя старонкі ўжо былі напісаны, прыйшлі весткі аб пераменах у Чэхаславакіі, аб тым, што Савецкі ўрад прызнаў памылкай уваход войска пяці краін Варшаўскага дагавору на тэрыторыю Чэхаславакіі ў жніўні 1968 года. У тым самым жніўні, калі прыехала па мяне чорная «Волга». Не параўноўваючы маштаб драматычных, калі не трагічных, падзей тых дзён на чэхаславацкай зямлі са «справай Вакулоўскай», нельга ўсё ж не бачыць, што гэта былі з'явы аднаго парадку.

## *Пераклады*

**Усё доўгае жыццё грэчаскага паэта Яніса Кутсохераса (ён нарадзіўся ў 1904 г.) ёсць жыццё не мастака-сузіральніка, а мастака-грамадзяніна. Адукацыю набыў у Афінскім універсітэце і ў Сарбоне (Францыя). З 1974 года Я. Кутсохерас — член парламента ад партыі «Усягрэчаскі сацыялістычны рух». Ён прэзідэнт грэчаскага пен-клуба, лаўрэат многіх літаратурных прэмій. Яго паэтычным творам уласцівы алегарычная вобразнасць, аптымістычныя адносіны да жыцця. Пастаянны прадстаўнік Грэцыі пры ЮНЕСКА. У гэтай сваёй якасці наведаў нашу краіну.**

**Вершы Я. Кутсохераса друкуюцца па ініцыятыве камісіі БССР па справах ЮНЕСКА.**

**Яніс КУТСОХЕРАС**

### Чайка

Чайкай стань, душа мая,
паміж хмараю і кручай,
дзе пустэльнікам маяк,
ветразь белы і лятучы.

І над хваляй штармавой
разгарні шырока крылы,
берагі душы маёй
асыпай ты зорным пылам.

Пена, як лімонны цвет...
Чайкаю ляці без стомы,
ты нясі прыморскі свет,
смех, са смуткам не знаёмы.

Пераломіцца крыло—
чайка ўпадзе на сушу.
Сонца для яе зайшло:
пенны вал душу патушыць.

### Заклік

Паўстань за долю чалавека.
Хоць і застанешся адзін—
спакойным будзь. Не адзінокі
той, хто не гнецца ў барацьбе.

За свет, за долю чалавека!
Душа гарыць, пячэ, як скат.
Перад адным і перад войскам
аднолькава нязломным будзь.

Стой супраць жорсткіх
і магутных,
стой супраць хісткіх і манюк,
і супраць тых, хто душыць
волю,
і тых, хто, нібы раб, дрыжыць.

З бязлітасным і хітрым богам,
з бесчалавечнымі людзьмі,
і з геніем, і з невядомым,
і з доляй добраю і злою,—
змагайся ты за чалавека.
І не скарайся. Стой насмерць.

●

Оду Піндара спяваў
я калісьці:
«Зямля—наша маці,
мы дзеці зямлі»...
Сягоння я чую,
як плачуць матулі
па дзецях замучаных,
дзецях знясіленых,
якія жыццё пакідаюць.

Адкуль жа бяруцца элегіі
ў сэрцы?

Я гавару ў Еўрапейскім савеце,
што дзеці на свеце
галадаць не павінны.
Словы мае—рашэнне савета.
Аднак жа...
Аднак жа
толькі папера ўвасобіла
словы мае.

Якім жа мне крыкам
крычаць табе, век,
абвінавачванне—словы мае—
агнём апякаюць:
— Ад голаду дзеці зямлі
паміраюць,
сягоння,
і зараз,
і ў гэту хвіліну!

### Пейзаж

ЛЕНЕ

Лісце на голлі і вецер на волі.
Конікаў—быццам засеяна
поле.

Цягнуць платаны да поўні
і зорак
рукі галін—не дацягнуць:
прастора!

Лісце, і голле, і вецер імклівы
мне нагадалі цябе, маё дзіва.

Здаешся ты поўняй і зоркай
з туману,
а я ж усяго—толькі рукі
платана.

### На вуліцы ішоў дождж

Дождж ішоў
ціхі, журлівы.

Сэрца нудзілася
развітальна,
бледнае лісце,
мутныя слёзы,
мноства бясконцае слёз.

### Праметэй

Сягоння
хто расправіць плечы
перад Уладай
і Насіллем Зеўса?

Хто
жорсткасць,
што не мае межаў,
сваёй рукой перасячэ?

Хто
вылечыць зямное цела,
навучыць звар'яцелы свет?

Хто
па сігналу Праметэя
да ўздыму створыць заклік
свой?

### Чалавечая прага

Ракі паток
сцёк у выток—
патоку не змялець.
Як плынь ракі,
бягуць вякі,
з жыццём не ладзіць смерць.

Рака цячэ,
а кроў званчэй
пяе не ў цішыні.
Закон адзін
шляхоў часін:
я ў праэе, бы ў агні.

Жадаю я
і прагну я
пітва, яды, любві,
я прагну жыць,
каб запаліць
агонь святы ў крыві.

Пагляд вачэй
глядзіць пільней
і прагне, прагне, пра...
пакуль ідзём,
пакуль жывём
і чуем кліч дабра.

Пераклаў Юрась СВІРКА.

